

Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднаўлена ў 1997 годзе.

# Газета Слонімская

№20 (258) 16 — 22 ТРАЎНЯ 2002Г. НАКЛАД 11.800 ЭКЗ. КОШТ 250 РУБ.

# І КОЖНЫ ДУМАЕ ПРА СВАЁ...



Фота Віталя ГІЛЯ



# ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

Ідзе падпіска на друкаваныя выданні на другое паўгоддзе 2002 года. І, як вы заўважылі, кошт падпіскі павысіўся літаральна на ўсе газеты і часопісы. Не выключэннем стала і "Газета Слонімская". Мусім падкрэсліць, што гэта не нашы капрызы, а вымушаны крок. Манапаліст Белпошта, паслугамі якой карыстаюцца ўсе выданні, робіць свае "накруткі" і немалыя. Для яскравасці прывядзем наступны прыклад. Падпісны месячны кошт на "Газету Слонімскую" на другое паўгоддзе склаў 1000 рублёў. Пошта да гэтай сумы дабавіла свае 809 рублёў. Такім чынам, камісійныя паштавікоў складаюць амаль 81 працэнт. Падобнай "накруткі", мусіць, няма нідзе ў свеце.

У сувязі з гэтым "ГС" вырашыла стварыць сваю службу падпіскі на газету, пакуль толькі для жыхароў горада Слоніма. Падпіску на наша выданне можна аформіць у рэдакцыі па адрасе: вул. Камсамольская, 8. Падпісная цана на месяц наступная:

**індывідуальная** – **1300** руб,
**ільготная** – **1100** руб,
**ведамасная** – **2550** руб.

Падпіска ў рэдакцыі працягнецца **да 29 траўня.**

Нагадваем, што тыя чытачы, якія жывуць за межамі Слоніма, могуць падпісацца на "Газету Слонімскую" у любым паштовым аддзяленні Беларусі па наступных коштах:

**КОШТ падпіскі** на адзін месяц:
- **ІНДЫВІДУАЛЬНЫ** (індэкс 64042) - **1809** руб.
- **ІЛЬГОТНЫ** (індэкс 63646) - **1596** руб.
- **ВЕДАМАСНЫ** (індэкс 63818) - **3008** руб.

З НАГОДЫ ВІЗІТУ

# СЛОНІМ ЧАКАЕ ГАСЦЕЙ

**Усе святочныя дні ў пачатку траўня на Слонімшчыне стаяла гарачае надвор'е. Людзі адпачылі ўдосталь ды папрацавалі на славу на сваіх сотках: пасадзілі бульбу, агуркі, цыбулю. Цяпер усе чакаюць дажджоў, каб тое, што пасадзілі, дало ўраджай.**



Перш за ўсё ўпрыгожваюць тэрыторыю каля райвыканкама

Фота Віталя ГІЛЯ

Але травень на Слонімшчыне паранейшаму застаецца гарачым і напружаным. Найперш – для мясцовай вертыкалі. Ужо некалькі тыдняў у цэнтры Слоніма не спыняюцца рамонтныя работы: кладуць асфальт, брукуюць вуліцы, беляць фасады дамоў, мяняюць аўтобусныя прыпынкі і г.д. Даўно слонімцы не бачылі такой колькасці тэхнікі, людзей, якія прыводзяць у належны выгляд цэнтр нашага горада. І няма сумнення, што Слонім будзе хутка выглядзець значна прыгажэй, чым ён быў раней. Але з якой нагоды так узяліся чыноўнікі за справу? А справа, кажучы словамі Мікалая Гогаля, адна: "К нам едет ревизор!". Ды не адзін рэвізор, а некалькі. І даволі самавітыя. Адзін Аляксандр Рыгоравіч чаго варты. А разам з ім 20 траўня Жыровічы і Слонім наведаюць Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт і Патрыярх усяе Русі Алексій ІІ. Дарэчы, Алексій ІІ ужо чацверты раз наведае Беларусь і другі раз – Жыровічы.

Быў час, калі ў Жыровічы прыязджалі польскія каралі і проста вяльможныя асобы з Захаду. Яшчэ ў 1644 годзе тут пабывалі кароль Уладзіслаў IV, а ў 1652 годзе – кароль Ян Казімір, а таксама каралі Ян Сабескі, Аўгуст ІІ, Станіслаў Панятоўскі і дзесяткі іншых асоб. Цяпер у Жыровічы едуць з Усходу, часцей за ўсё 20 траўня, калі адзначаецца свята Жыровіцкай Божай Маці. Хадзілі па Слоніму чуткі, што ў наш горад прыедзе нават Уладзімір Пуцін. Але, шчыра кажучы, Пуціну не да Беларусі, а тым больш не да правінцыяльнага Слоніма. Яму б разабрацца з расійскай глыбінкай.



Кветкі для прэзідэнта



Брукаванку на Першамайскай вуліцы вырашылі аднавіць

Фота Віталя ГІЛЯ

Цяпер замест Пуціна, мяркуюць, што прыедзе да нас мэр Масквы Юрый Лужкоў. І ў яго візіт мала верыцца. Найвялікшым нашым госцем, хутчэй за ўсё, можа быць небезвядомы Пал Палыч Барадзін. Але навошта гадаць, пажывем – пабачым.

Спачатку госці з Усходу пабываюць у Жыровічах і ў гэты самы дзень наведаюць цэнтр Слоніма. Тут Алексій ІІ асвеціць Свята-Прэабражэнскі сабор і завітае на Віленскую вуліцу, дзе будзе асвечана месца будаўніцтва новага праваслаўнага храма – царквы святога Аляксандра Неўскага. Дзіўна, як быццам у Беларусі няма сваіх святых, імем якіх была б ў Слоніме названа царква.

Візіт гасцей у Слонім найбольш расхваляваў калектыў дзіцячага садка № 3, які знаходзіцца побач з будучым саборам. Праваслаўныя вернікі хочуць будынак садзіка забрацьпад дом міласэрнасці. І гэта пытанне на іх карысць лёгка можа вырашыць Філарэт праз Аляксандра Рыгоравіча. Вядома, старшыні Гродзенскага аблвыканкама і Слонімскага райвыканкама будуць супраць такога рашэння. Тым больш, што садзік працуе, яго наведваюць 85 дзяцей, а педагагічны калектыў налічвае 24 чалавекі. І раптам пазбавіцца ўсяго гэтага не так проста.

Разам з гасцямі з Усходу на Слонімшчыну 20 траўня завітаюць некалькі дзесяткаў тысяч паломнікаў. Для іх будзе ў Жыровічах раскінуты палатачны гарадок, наладжаны рэгулярны рух аўтобусаў са Слоніма.

Пасля 20 траўня слонімскія чыноўнікі могуць смела ісці ў водпуск. А ў канцы жніўня, магчыма, пачнуцца мерапрыемствы з нагоды 750-годдзя нашага горада над Шчарай. Але да гэтай нагоды сёетое па добраўпарадкаванню горада будзе ўжо зроблена. А вопыт правядзення саміх урачыстасцяў у Мечыслава Касцюка ёсць. Ён, будучы старшынёю Дзятлаўскага райвыканкама, нядрэнна ў свой час адзначыў 500-годдзе Дзятлава. Праўда, Слонім – гэта не Дзятлава, але, тым не менш... Был б грошы...

**Сяргей ЧЫГРЫН**

Курсы обмена валют в г. Слониме по состоянию на 14⁰⁰ 13 мая 2002г.

| | | |
|---|---|---|
| "Беларусбанк" | | |
| | Покупка | Продажа |
| 1 USD | 1760 | 1790 |
| 1 EURO | 1585 | 1615 |
| 1 RUR | 55 | 56,5 |
| оао "Белпромстройбанк | | |
| | Покупка | Продажа |
| 1 USD | 1760 | 1800 |
| 1 EURO | 1570 | 1630 |
| 1 RUR | 56 | 58 |
| "Белагропромбанк" | | |
| | Покупка | Продажа |
| 1 USD | 1760 | 1785 |
| 1 EURO | 1520 | 1570 |
| 1 RUR | 55 | 57 |
| Нацбанк РБ | | |
| 1 EURO | 1585,31 | |
| 1 USD | 1742 | |

# ХОЧАШ ПАМАЛІЦЦА, ПАСПРАБУЙ ПРАЗ МІЛІЦЫЯНЕРАЎ ПРАБІЦЦА

**На свята іконы Жыровіцкай Божай Маці звычайна прыязджаюць вернікі з розных куткоў Беларусі і іншых праваслаўных краін. Для іх гэта – магчымасць дакрануцца да святыні, звярнуцца да Бога перад цудатворнай іконай.**



Жыровічы рыхтуюцца да сустрэчы гасцей

Фота Віталя ГІЛЯ

Але сёлета, мабыць, не ўсе здолеюць зрабіць гэта, бо чакаецца прыезд у Жыровічы Патрыярха ўсея Русі Алексія ІІ і Аляксандра Лукашэнкі. Акрамя іх асабістай аховы, якая налічвае не адзін дзесятак чалавек, плануецца прыцягнуць 20 траўня на забеспячэнне аховы высокіх асобаў усіх міліцыянераў са Слонімскага РАУС.

І гэта яшчэ не ўсё. Як стала вядома карэспандэнту "ГС", каля 500 міліцыянераў будуць накіраваны ў Слонім і Жыровічы з іншых гарадоў Гродзенскай вобласці. Як звычайна, прыедуць ахоўваць прэзідэнта Беларусі і байцы мінскага АМАПа. Прайсці праз гэтыя кардоны цела-ахоўнікаў людзям, для якіх свята цудатворнай іконы гэта не проста выпадак пакрасавацца, будзе, мабыць, не так ужо і проста.

**Валерый КАВАЛЕНКА**

ПОЧТА

## ВОТ ПРИЕДЕТ БАРИН...

Уважаемая редакция "Газеты Слонімскай".

Хочу обратиться через вашу газету с открытым письмом к уважаемому президенту Александру Григорьевичу Лукашенко.

Мы, жители улицы Подлесной в деревне Жировичи прослышали, что 20 мая он будут ехать в Жировичский монастырь вместе с Алексием ІІ. Просим его проехать по нашей улице. Дорогой Александр Григорьевич, она небольшая, и охрану мы вам обеспечим надежную. Все пенсионеры выйдут вас охранять.

Правда, оружия у нас ни у кого нет. Но – молодые будут охранять вас с крыш, а старики – на улице. Так что, чужак ни один не появится.

А беда наша вот в чем. Хотели мы провести природный газ; сделали технические паспорта на дома, выбрали энергичного жителя улицы Сергея Михайловича Хоружего, и пошел он по инстанциям. А ему и говорят, что газ нам не подключат. Потому что трубу дальше вести бесполезно, да еще каждый из нас должен заплатить по 50 тысяч, чтобы трубу только до улицы нашей подвели.

Мы, конечно, виноваты, что труба от нас очень далеко. А у нас только тринадцать человек, которые могут хоть немного собрать денег, у остальных их просто нет.

Александр Григорьевич, пожалуйста, посмотрите документацию у тех людей, что живут близко от котельной. Во сколько им обошелся газ? Потому что и председатель сельсовета, думаю, тоже живет с газом и водой. А у нас рядом только кладбище на горке есть, и весной и осенью вся вода с кладбища попадает нам в колодцы.

Есть у нас и небольшая привилегия. С центральной улицы заасфальтировали дорогу до кладбища, а вот на 1 километр нашей улицы не положено ни газа, ни асфальта, нет ни воды нормальной. Но сильно не волнуйтесь, Александр Григорьевич, кое-что у нас все-таки есть. У бабы Дуни, ей 78 лет, – велосипед, у бабы Вали – тачка. А я вообще богатая, – недавно дед купил двуколку. Говорит, мол, куплю тебе, баба, хомут и дугу, будем дрова из леса возить.

Так что мы спокойны. И газ нам, если подумать, не нужен. А что воду трупную пьем, так ее никто не проверял. И не беда, что сами копаем канавы, чтобы вода в ливень не смыла все с огородов.

А впрочем, если вам не трудно, – посмотрите и проверьте, когда был составлен проект на газ по Жировичам, и кто его похоронил. Нас обманывали много раз, обещали провести газ и положить асфальт. Но, увы, любят нам обещать и ничего не делать. Так начальству живется спокойней.

Подписи всех жителей собирать не буду, заранее знаю, что все со мной согласны.

**С уважением, Раиса РУКАН, д. Жировичи"**

ПРОИСШЕСТВИЯ

## ГОРЕЛИ БАЛКОН...

**В Слониме в квартире по улице Тополевой, в воскресенье 12 апреля, загорелся балкон.**

По предварительным данным причиной пожара стало неосторожное курение.

## ... И "МОСКВИЧ"

**На Брестской улице вспыхнул автомобиль "Москвич-412".**

Из-за высокой температуры в рядом стоящем "ВАЗ-2101" лопнуло боковое стекло. Причина пожара устанавливается.

**Ольга ШИНКЕВИЧ**

ВОПРОС – ОТВЕТ

## ИНОСТРАНЦЕВ У НАС ЛЕЧАТ ЗА ДОЛЛАРЫ

**К нам в газету не раз звонили люди, которые задавали вопрос о платной медицине для иностранных граждан, проживающих на территории Беларуси.**

Звонившие интересовались, на каком основании и когда было установлено брать плату за медицинские услуги с иностранцев? «Слишком уж много приходится платить», – жаловались люди.

Вопрос о платных медицинских услугах корреспондент «ГС» адресовала заместителю главного врача Слонимского территориального медицинского объединения Юрию Запрягаеву.

По словам Юрия Феликсовича, Министерство здравоохранения РБ еще в 1998 году разработало и утвердило постановление о взимании платы за медицинские услуги с иностранных граждан, постоянно проживающих на территории Беларуси. «Это не перечит законодательству нашей республики», – отметил Юрия Запрягаев.

Согласно постановлению, иностранным гражданам, гражданам СНГ, имеющим вид на жительство, бесплатно оказывается скорая и неотложная медицинская помощь. А вся плановая медицина для этой категории людей является платной.

Цены на те или иные услуги исчисляются в условных единицах (долларах). Прайс-лист всех видов услуг составляет брошюру примерно в 20 страниц. Приведем некоторые цены на самые распространенные услуги, оказываемые иностранцам, проживающим в нашей республике. Например, электрокардиограмма стоит 2 доллара, на дому – 3 доллара. Рентгенологическое обследование грудной клетки обойдется иностранным гражданам в 7 долларов. Консультация акушера-гинеколога стоит 10 у.е., один месяц наблюдения беременной женщины-иностранки в женской консультации – 35 у.е. (за весь период беременности – около 315 у.е.).

По словам Юрия Феликсовича, нормальные, в срок роды стоят 160 у.е. (по крайней мере этот вид услуг есть в прайс-листе Министерства Здравоохранения), отягощенные роды – 210 у.е., кесарево – 220 у.е.

На все виды консультаций, заболеваний, обследований – своя цена, которую иностранцы должны заплатить за медицинские услуги врачам.

**Ольга ШИНКЕВИЧ**

РЭПЛІКА

## ПАКРЫЎДЗІЛІ ВОІНАЎ-ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІСТАЎ

**У рэдакцыю нашай газеты пазваніла жанчына і заплаканым голасам сказала, што кожны год адміністрацыя Слонімскай камвольна-прадзільнай фабрыкі на 9-га траўня віншавала воінаў-афганцаў, а таксама ўручала ім грашовыя прэміі і падарункі, а сёлета ніхто пра іх і не ўспомніў.**

"Такіх ветэранаў афганскай вайны на фабрыцы 12 чалавек, сярод іх і мой муж. Як жа так?" – абуралася жанчына.

Карэспандэнт "ГС" пазваніў аднаму з воінаў-інтэрнацыяналістаў, які працуе на КПФ, і запытаўся, ці сапраўды іх ніхто не павіншаваў. "Сапраўды, не. Чуў я, што, нібыта, на ксераксе падрыхтавалі былі віншавальныя паштоўкі, але не знайшлося грошай на канверты, таму паштоўкі так нам і не адправілі,"– сказаў былы афганец.

Каментарый, як кажуць, да гэтага факта непатрэбны.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# ПАМЯЦЬ, ЯКАЯ ПЕРАХОДЗІЦЬ З ПАКАЛЕННЯ Ў ПАКАЛЕННЕ


Фота Віталя ГІЛЯ

*Шматлюдна было на святочным мітынгу каля танка па вуліцы Першамайскай*

СВЯТА

**Народ Беларусі свята Перамогі заўжды прымаў блізка да сэрца. З пакалення ў пакаленне пераходзіць традыцыя ўшаноўваць загінуўшых у той вайне — Вялікай Айчыннай, — якая нікога не пакінула ўбаку.**

Ці не таму штогод 9 траўня прыходзяць у цэнтр Слоніма і ветэраны, і моладзь. Прыходзяць, каб ускласці кветкі да помніка салдатам, абараніўшым Радзіму ад фашысцкай навалы, памянуць забітых ды ўшанаваць тых, хто застаўся ў жывых. Не сталі выключэннем і пяцьдзесят сёмыя ўгодкі вялікай Перамогі. Палова жыхароў Слоніма адкалала ў гэты дзень свае надзённыя справы і прыйшла на свята.

І не было бачна змрочных твараў, добразычлівасць і цеплыня аднасін адзін да аднага зрабілі Дзень Перамогі сапраўдным святам яднання.

Спрыяла гэтаму і праграма святочных мерапрыемстваў, якія не абмежаваліся мітынгам ды парадам воінаў Слонімскага гарнізона. Свята працягвалася ў гарадскім парку, граў духавы аркестр 11 механізаванай брыгады, было дзе і падняць памінальную чарку. А для дзетак сапраўдным падарункам сталі атракцыёны завітаўшага ў Слонім чэшскага "Луна-парку".

**Валерый КАВАЛЕНКА**

# ВСКОРЕ И СЛОНИМЧАНКИ БУДУТ НА МИРОВОМ ПОДИУМЕ

МОДА

**Больше года в нашем городе существует модельное агентство «ЛеОна», которое создали слонимчане Вероника и Виталий.**

Много изменилось в «ЛеОне» за этот период времени: Вероника временно оставила любимую работу. Поэтому теперь Виталий обучает девочек правильно ходить по подиуму,– дефиле, учит поддерживать свой стиль в одежде, правилам макияжа.

Для того, чтобы многого достичь в модельном бизнесе, по словам Виталия, девочкам придется упорно и долго работать над собой. Виталий верит в то, что о его воспитанницах вскоре узнает весь мир. И предпосылки к этому уже имеются.

С самого начала основатели «ЛеОны» пророчили девочкам большое будущее. И вправду, в ноябре 2001 года 14-летней Алине Шаповаловой (СШ №9) поступило предложение к сотрудничеству от итальянской фирмы «Raccardo Cay», а 16-летней Алле Чак (СШ №4) – от французской фирмы «Karina». На республиканских смотрах (кастингах) в Минске слонимские красавицы показали себя с самой лучшей стороны. Высокий уровень дефиле, умение держаться на подиуме, раскованность юных слонимчанок отметили профессионалы модельного бизнеса Беларуси и присутствующие гости из Европы. В частности, Алла Чак подписала контракт с французским модельным агентством на 5 лет. После окончания школы она будет работать в Греции, во Франции.

А недавно в Слоним приехал поприсутствовать на занятиях «ЛеОны» победивший в республиканском конкурсе «Супер-модель Беларуси» Алексей Молчанов. Он работает на все модельные агентства нашей республики и на многие известные российские модельные агентства. Алексей является профессионалом своего дела. На данный момент он совмещает работу с учебой в Минской Академии спорта (отделение большого тенниса). Алексей отметил, что многие слонимские модели держатся на подиуме достаточно профессионально.

«Видно, что Виталий хорошо постарался, чтобы научить своих воспитанниц правилам дефиле. По-моему, у слонимчанок есть все предпосылки, чтобы выглядеть достойно и на мировых подиумах», – сказал Алексей Молчанов.

**Ольга ШИНКЕВИЧ**



*Алексей Молчанов*


Фота Віталя ГІЛЯ

*Виталий учит девочек дефиле*

НАВІНЫ

## РАЗВІТАЛІСЯ З ПАСЛОМ ТУРЦЫІ



*Сулейман Байрашэўскі з паслом Турцыі Шуле Сайсал*

**Закончыўся тэрмін прабыцця надзвычайнага і ўпаўнаважанага пасла Турцыі ў Беларусі Шуле Сайсал.**

З гэтай нагоды адбылася развітальная вечарына ў кафэ "Журавінка" у Мінску. На ёй прысутнічалі паслы замежных краін, міністры РБ, артысты, палітыкі, журналісты. Ад мусульманскіх абшчын Беларусі на развітальную з паслом вечарыну быў запрошаны імам-старшыня суполкі мусульман Слоніма Сулейман Байрашэўскі. Ён падзякаваў паслу за супрацоўніцтва і ўручыў падарункі і сувеніры з нагоды 750-годдзя Слоніма. Дарэчы, пасол Турцыі Шуле Сайсал у мінулым годзе пабывала ў нашым горадзе, дзе яна наведала мясцовую мячэць.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

НУ І НУ!

## НА ЧЫМ НАС ВОЗЯЦЬ?

**У мінулую нядзелю, 12 траўня, у аўтобусах прыгарадных маршрутаў было не павярнуцца — пасля святочных і выхадных дзён людзі вярталіся з вёсак дамоў.**

Пасажыры ранішняга рэйсу "Еднačы – Слонім" ужо адчулі сябе амаль дома, калі на вуліцы Пушкіна з перагрэтага рухавіка аўтобуса спіны пасажыраў на заднім сядзенні знянацку абдало гарачым парам.

Прыйшлося пахвалявацца і пасажырам вячэрняга рэйса на маршруце "Смаўжы – Слонім". У салон аўтобуса на працягу ўсяго шляху траплялі гарачы пар з едкім пахам бензіну. На заўвагі пасажыраў аб тым, што з машынай непаладкі, вадзіцель ніяк не адрэагаваў. Тады адзін з пасажыраў прыкрыў кавалкам газеты гарлавіну радыятара, якая, як вулкан Везувій, пыхкала парай. Камфорту гэта не дадало, а каля вёскі Сакалова аўтобус зусім спыніўся. Шафёр пайшоў у вёску тэлефанаваць, каб прыслалі дапамогу з аўтапарка, а пасажыры высыпалі на вуліцу са смярдзючага салона аўтобуса, даючы волю пачуццям у слоўных выразах.

Тыя з пасажыраў, што спяшаліся на цягнік, спазніліся, як мінімум, на гадзіну. Няспраўную машыну з часткай пасажыраў (астатнім раней удалося ўціснуцца ў прытармазіўшы ПАЗік) праз паўгадзіны адбуксіравала ў горад машына тэхдапамогі.

Дык на чым нас возяць і колькі каштуюць патрачаныя нервы і час, калі кошт квітка са Смаўжоў да Слоніма раўняецца ў выхадныя дні, прыкладна, аднаму даляру ў пераліку па курсу нацбанка?

Зрэшты, адказ на гэтае пытанне можа даць суд, калі ў кагосьці з пасажыраў аднойчы лопне цярпенне, і ён падасць на Слонімскі аўтапарк №3 іск аб парушэнні правоў спажыўца. Тым больш, што ў судовай практыцы падобнае ўжо мела месца.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

МАСТЫ

## СУДДЗЯ СУДЗІЦЦА

**Упраўленне юстыцыі Гродзенскага аблвыканкама напачатку бягучага года прапанавала кваліфікацыйнай калегіі суддзей Гродзенскай вобласці пазбавіць старшыню Мастоўскага суда Галіну Грудскую гэтай пасады і пасады звычайнага суддзі.**

Прычыны такой ініцыятывы Упраўлення юстыцыі невядомыя.

Як стала вядома карэспандэнту "ГС", яшчэ ў сакавіку адбылася калегія суддзей, дзе было прынята рашэнне аб пазбаўленні Галіны Грудскай пасады старшыні суда, але захавала за ёй пасаду суддзі.

Галіна Іванаўна не пагадзілася з гэтым і апратэставала дадзенае рашэнне ў Вярхоўным судзе.

Вярхоўны суд адмяніў рашэнне калегіі суддзей Гродзенскай вобласці і захаваў за Грудскай усе пасады, нягледзячы на тое, што старшыня суда раёна знаходзіцца на пенсіі.

**Антон МАКЕЙ**

## ЗЗЯННЕ КАМЯНЁЎ

**У Мастах у памяшканні раённага Дома культуры прайшла выстава-продаж вырабаў з камянёў пад назвай "У свеце каменя".**

На ёй наведвальнікі пабачылі шкатулкі, падсвечнікі і другія вырабы з самацветаў. Тут можна было набыць камяні-талісманы, лячэбныя камяні, абярэгі. У продажы меліся карціны, якія былі выкананы з каменя і дрэвы з самацветаў. Наведвальнікамі ў большай частцы былі школьнікі і людзі маладога ўзросту. Вучні прыходзілі класамі. Пакупнікоў было не шмат, але гэта былі людзі больш сталага ўзросту.

Масты — трэці горад, дзе адбылася падобная выстава. Папярэдне яна дэманстравалася ў Навагрудку і Бярозаўцы.

**Антон МАКЕЙ**

## ПЕНСІЯНЕРАЎ АБМЯЖОЎВАЮЦЬ

**У калгасе "Новы шлях" Мастоўскага раёна плата за пасадку і арпацоўку бульбы пенсіянерам напачатку складала палову сумы працуючых калгаснікаў — 1 500 рублёў.**

Але пазней праўленне калгаса ўнесла ўдакладненні. Гэты кошт адносіцца толькі да 10 сотак зямлі, а калі пенсіянер пажадае пасадзіць бульбы болей, то павінен будзе ўжо плаціць па 3 000 рублёў за сотку.

**Антон МАКЕЙ**

## ЦЫГАНЫ — ПЕРСОНЫ НОН ГРАТА

**У некаторых вёсках Мастоўскага раёна на крамах і іншых людных месцах вывешаны аб'явы, у якіх кампетэнтныя органы запрашаюць мясцовых жыхароў звяртацца ў міліцыю, калі ў населеным пункце з'явіліся цыганы.**

Трэба тэлефанаваць нават тады, калі цыганкі не прапануюць пагадаць, а проста з'явіліся ў вёску, бо "яны магчыма знаходзяцца ў вышуку".

**Антон МАКЕЙ**

## ПРЫЧЫМ ТУТ ПОМНІК

**Трэба думаць, што ў вёсцы Харшца Мастоўскага раёна жыхары не любяць помнік Леніну, які стаіць насупраць будынка сельсавета.**

Напачатку невядомыя зламалі крысо гіпсавага паліто. Пасля таго, як манумент быў пафарбаваны, недабразычлівцы ўклалі Ільічу ў руку паперы і падпалілі. Рука правадыра пачарнела па самае плячо.

**Антон МАКЕЙ**

# ЖЫЎ У СЛОНІМЕ ПАЭТ

ЮБІЛЕЙ

**Да 90-годдзя з дня нараджэння беларускага паэта Анатоля Іверса (Івана Дарафеевіча Міско)**



*Анатоль Іверс*

На вуліцы Дабрыяна ў Слоніме ў невялікім драўляным доме шмат гадоў пражыў старэйшы беларускі паэт Анатоль Іверс, якому 15 траўня споўнілася б 90. Я вельмі часта бываў у яго ўтульным доме, дзе ў сенцах пахла бульбаю і сушанымі яблыкамі. Яшчэ здалёк мяне вітала шчырая Ніна Паўлаўна — жонка паэта, адданая яго сяброўка па жыцці.

Я заходзіў у маленькі пакойчык паэта, вітаўся з Іванам Дарафеевічам, і пачыналася наша гутарка. Аб усім. Але ў апошнія гады паэта мы часцей за ўсё гаварылі пра Беларусь, пра палітыку, а Іван Дарафеевіч параўноўваў сённяшні час з 30-мі гадамі.

Часам да нас далучалася Ніна Паўлаўна, успамінаючы сваю маладосць, расказваючы пра тое, як цяжка жылося ім у Слоніме. " Іван заўсёды размаўляў па-беларуску, а яго за гэта лічылі нацыяналістам. З недаверам, з нейкай асцярогай да яго ставіліся мясцовыя чыноўнікі з гаркама партыі," — казала Ніна Паўлаўна.

Анатоль Іверс за сваё жыццё выдаў толькі шэсць зборнічкаў вершаў. Апошні з іх называўся "Травень". Усе яны — амаль аўтабіяграфічныя:

*Месяц травень — і я ў доме,*
*У той дзень на свет прарос.*
*І на леташняй саломе*
*Абсыхаў ад майскіх рос.*
*Хоць часамі сонца коса*
*Пазірала на мяне,*
*Падрастаў сабе ў пракосах,*
*Думаў, ліха праміне.*
*А яно паміж снапамі*
*Падкрадалася бліжэй.*
*І наскокі тыя памяць*
*Аж да смерці беражэ.*

Нарадзіўся Анатоль Іверс у 1912 годзе ў вёсцы Чамяры. Праз два гады сям'я выехала ў бежанства, пражывала ў Казанскай губерні і ў Кіеве. Вярнуліся дамоў толькі ў 1918 годзе. Ды радасці было мала. Дома чакалі галодныя дні, крапіва, лебяда. А праз год, пасля часовага знаходжання немцаў і бальшавікоў, амаль на дваццаць гадоў Заходняя Беларусь апынулася пад Польшчаю. Аднак юнак, які рана пазнаёміўся з беларускай літаратурай і выдатнымі настаўнікамі ў Віленскай, Клецкай і Навагрудскай гімназіях (з усіх паэта выганялі), пачаў пісаць вершы. А ў верасні 1939 года, падабраўшы псеўданім Анатоль Іверс, каб схавацца ад дэфензіўшчыкаў, атрымаў свой першы паэтычны зборнік "Песьні на загонах".

У гады вайны Іван Міско быў адным з арганізатараў падпольнага антыфашысцкага руху, партызанам брыгады імя Ракасоўскага, сакратаром Слонімскага міжраённага антыфашысцкага камітэта. У пасляваенны час працаваў у гарсавеце, у рэдакцыі райгазеты, у лесахімічнай прамысловасці і г.д. Шмат прыйшлося перажыць. Але паэт Анатоль Іверс заўсёды пісаў вершы, ніколі не цураўся роднай мовы:

*А той, хто прымусы над моваю творыць,*
*Каб ён не дайшоў да дзяцей, да радні!*
*Мы зробім усё, што на родных прасторах*
*Напоўняцца музыкай майскія дні.*

Штогод майскія дні, сапраўды, напаўняюцца музыкай. Цвітуць яблыні, слівы і вішні вакол хаты Анатоля Іверса. Цяпер там новыя гаспадары. Таму я рэдка бываю на вуліцы Дабрыяна, дзе жыў паэт. Успамінам пра яго служаць наша сяброўства, ягоныя вершы і тыя літаратурныя вечары, дзе мы сустракаліся з чытачамі.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# КАРОСТА ЗАЯДАЕ МАСТАЎЧАН

МАСТЫ

**Згодна інфармацыйнага бюлетэня, які прадставіў галоўны ўрач Мастоўскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Леанід Ушкевіч у зацікаўленыя арганізацыі, праблема заразных скурных захворванняў не згубіла сваёй актуальнасці ў раёне і сёння.**



Фота IREX/ProMedia

Захворванне каростай павысілася на 8,6% у параўнанні з мінулым годам: у горадзе зарэгістравана 20 выпадкаў захворванняў, 18 — на вёсцы. Захварэла каростай 16 дзяцей школьнага ўзросту і двое дашкольнікаў. Найбольшая лічба — 6 выпадкаў — зарэгістравана ў СШ №5. Таксама зарэгістравана 7 выпадкаў захворвання сярод непрацуючых, у спецкамендатуры вёскі Грушаўка — 4 выпадкі.

80% хворых выяўлена ў выніку прафабследавання і пасля школьных канікулаў. 19 чалавек было шпіталізавана. Столькі ж лячылася амбулаторна.

У 23 выпадках хварэлі дзеці да 14 гадоў: 15 школьнікаў і 8 дашкольнага ўзросту. Галоўны ўрач лічыць, што гэта ўсё знаходзіцца ў прамой залежнасці ад сацыяльна-эканамічных і культурна-бытавых умоў жыцця насельніцтва. Пытанні банна-пральнага абслугоўвання насельніцтва вырашаюцца слаба: з 76 лазняў у раёне працуе толькі 53. Слаба працуе ветслужба. Згодна справаздачы, ёю было праведзена 835 аглядаў, але заразных жывёлаў не выяўлена.

І ў сувязі з гэтым Мастоўскі цэнтр гігіены і эпідэміялогіі перш за ўсё рэкамендуе актывізаваць працу жыллёва-камунальнай службы па ўліку і адлову бадзячых жывёлаў.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

# БАНДЫЦКІ НАПАД НА ЖУРНАЛІСТА

ГРОДНА

**4-га траўня, напярэдадні праваслаўнага Вялікадня, каля 22 гадзін, непадалёку ад прыпынку ля кінатэатра "Космас" у Гродне трое невядомых здзейснілі разбойны напад на гродзенскага літаратара і журналіста, сябра Беларускага ПЭН-цэнтра Юрыя Гуменюка.**

Бандыты атакавалі знянацку, павалілі пацярпелага на асфальт, моцна збілі, гвалтам сцягнулі з левай рукі японскі гадзіннік "Romex" і скралі з кішэні джынсаў партманэ, у якім знаходзілася прыблізна дзве тысячы семсот беларускіх рублёў.

5 траўня ў першай палове дня літаратара з падазрэннем на чэрапна-мазгавую траўму і пераломам рэбраў даставілі ў Гродзенскі шпіталь хуткай дапамогі. На шчасце, падазрэнні не пацвердзіліся. Аднак лекары тэрмінова паведамілі пра здарэнне ў міліцыю. Паводле факту разбойнага нападу неадкладна распачата крымінальная справа (артыкул 207, ч.2). Следству давядзецца высветліць: ці быў звязаны разбойны напад з прафесійнай дзейнасцю Юрыя Гуменюка, ці гэта было звычайнае рабаўніцтва.

Сваякі пацярпелага, асабліва яго родная сястра Людміла, схіляюцца да першай версіі, маўляў, Юрый Гуменюк працяглы час працаваў у забароненай уладамі газеце "Пагоня" і займаў актыўную грамадзянскую пазіцыю. Сваякі ўпэўненыя, што за Юрыем "сачылі". Прынамсі, некалькі разоў дадому да журналіста ў час ягонай адсутнасці з'яўляліся падазроныя асобы і дамагаліся ад бацькоў сустрэчы з Юрыем. Візіцёры ніколі не называлі сваіх імёнаў і прозвішчаў, а прадстаўляліся даўнімі знаёмымі. Аднак, па словах бацькоў Юрыя Гуменюка, у кола ягоных сяброў і знаёмых яны не ўваходзілі. Магчыма, гэта й былі звычайныя крымінальнікі, якія дзейнічалі па наводцы звонку. Маўляў, калі літаратар — вядомая ў горадзе асоба — значыць павінен мець шмат грошай і матэрыяльных каштоўнасцей.

Але гэта зусім не адпавядае рэчаіснасці. Пацярпелы жыве вельмі сціпла. Пасля закрыцця газеты "Пагоня" перабіваўся выпадковымі ганарарамі з іншых мас-медыяў. Апошнім часам быў карэспандэнтам радыёстанцыі "Балтыйскія хвалі" (Вільня), газеты беларусаў Польшчы "Ніва" (Беласток) і газеты "Наша ніва" (Мінск).

**www.pahonia.com**

ГРОДНО

## ЖУРНАЛИСТЫ ПРИЗНАНЫ УЗНИКАМИ СОВЕСТИ

**Международная правозащитная организация «Международная амнистия» признала узниками совести журналистов из Гродно, которые 5 апреля были подвергнуты административному аресту на срок от трех до десяти суток за участие в акции протеста.**

Как сообщает пресс-служба общественной инициативы "Хартия-97", в заявлении, распространенном 8 мая, "Международная амнистия" осуждает аресты журналистов, считая это атакой на свободу слова и мирных собраний.

Пикеты были организованы в поддержку редактора закрытой гродненской газеты "Пагоня" Николая Маркевича и журналиста этого издания Павла Можейко. Они подвергаются уголовному преследованию за якобы клевету в адрес президента А.Лукашенко.

Административному аресту были подвергнуты журналисты Александр Дворецков, Андрей Егоров, Андрей Мелешко, Станислав Пачобут, Анджей Писальник и Витовт Рудник. 25-летний Станислав Пачобут во время ареста провел десятидневную голодовку протеста.

**БелаПАН**

ВАЎКАВЫСК

## "ЛАНЦУГ НЕАБЫЯКАВЫХ ЛЮДЗЕЙ"

**7 траўня ў Ваўкавыску на мясцовым міні-рынку адбыўся "Ланцуг неабыякавых людзей".**

Акцыя была прымеркавана да трэцяй гадавіны з дня знікнення Юрыя Захаранкі. Ладзілі мерапрыемства прадстаўнікі незарэгістраванай арганізацыі "Моладзь АГП".

Падчас мерапрыемства эксцэсаў не адбылося.

**www.pahonia.com**

ДЗЯТЛАВА

## НІЧОГА СВЯТОГА НЕ ЗАСТАЛОСЯ

**Жыхарка вёскі Дварэц Дзятлаўскага раёна некалькі гадоў назад пахавала на мясцовых могілках сваю маленькую дзяўчынку.**

На працягу восьмі ўжо трох гадоў невядомыя вандалы апаганьваюць магілу гэтай дзяўчынкі. Жанчына вымушана была звярнуцца па дапамогу ў міліцыю.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## ТРАГЕДЫЯ НА ДАРОЗЕ

**Недалёка ад вёскі Нагарадавічы Дзятлаўскага раёна адбылася трагедыя.**

Грамадзянін В., едучы на ўласнай машыне, не справіўся з кіраваннем і перакуліўся. Маладая жанчына, жыхарка пасёлка Гезгалы, якая знаходзілася ў салоне, загінула на месцы. Было ёй толькі 30 гадоў. Сіротамі засталіся дзве маленькія дзяўчынкі, адной — 7 гадоў, другой — 4.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## РАБАЎНІКІ Ў МАСКАХ

**У Дзятлаўскую міліцыю звярнулася жыхарка пасёлка Наваельня.**

Яна паведаміла, што ноччу двое рабаўнікоў у масках уварваліся ў яе дом і з прымяненнем фізічнай сілы адабралі 430 даляраў ЗША, 180 тысяч беларускіх рублёў, два залатых пярсцёнкі і залаты ланцужок. Міліцыя шукае злодзеяў.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

ЭКОНОМИКА

## НИЩЕТА ДОВЕЛА ДО ЗАБАСТОВКИ И САМОУБИЙСТВА

**На ОАО "КИМ" забастовали два вязальных цеха. Причина — невыплата зарплаты в течение двух последних месяцев и самоубийство одной из вязальщиц.**

Как сообщает «БДГ», 38-летняя работница вязального цеха, мать двоих детей, покончила жизнь самоубийством из-за того, что нечем было кормить семью. Узнав об этом, наутро два вязальных цеха объявили забастовку. Требовали выдачи заработной платы за два месяца. Цеха «простояли» пять часов. К концу рабочего дня вязальщицам выдали зарплату за март.

**ХАРТИЯ-97**

## ГОСУДАРСТВО ЗАДОЛЖАЛО РАБОЧИМ 27 МИЛЛИАРДОВ РУБЛЕЙ

**Задолженность по заработной плате в республике на конец апреля составила 27 миллиардов рублей.**

Как сообщил директор департамента государственной инспекции труда Министерства труда и социальной защиты Беларуси Иван Селедевский, задолженность в агропромышленном секторе составила 23 миллиарда рублей.

**www.praca.by**

## НАИБОЛЬШИЙ УРОВЕНЬ ИНФЛЯЦИИ ОТМЕЧЕН В БЕЛАРУСИ

**Индекс потребительских цен в странах СНГ в первом квартале 2002 года в Беларуси вырос на 47%.**

В Азербайджане инфляция выросла на 1,6%, в Армении – на 0,4%, в Грузии – на 5,3%, в Казахстане – на 5,6%, в Кыргызстане – на 2,7%, в Молдавии – на 6%, в России – на 16,8%, в Таджикистане – на 6,4%, на Украине – на 3,7%. Данных по Туркменистану и Узбекистану нет.

**ХАРТИЯ-97**

ПОЛИТИКА

## ВДОВА И ДЕТИ ГЕННАДИЯ КАРПЕНКО ПОЛУЧИЛИ ПОЛИТИЧЕСКОЕ УБЕЖИЩЕ В ГЕРМАНИИ

**Людмила Карпенко — вдова вице-спикера Верховного Совета Беларуси 13 созыва, одного из лидеров белорусской оппозиции Геннадия Карпенко, умершего в апреле 1999 года, — получила статус политического беженца в Германии.**

Как сообщило "Радыё Свабода", вместе с ней политическое убежище получили сын Дмитрий и дочь Татьяна с внучкой Настей. Семья Карпенко выехала в Германию в январе этого года. Первое время они будут жить в маленьком городке Эфинген пад Штутгартом.

В интервью "Радыё Свабода" 10 мая Людмила Карпенко сказала: "Особой радости от получения этого статуса у меня нет, так как я думаю, что вернусь. Но при Лукашенко это сделать тяжело, потому что нужно не просто жить, а бороться. Фонд, который я создала вместе с детьми и друзьями Геннадия, продолжает работать, и отсюда он будет действовать даже более активно. Таким образом, я продолжаю свою борьбу с существующим в Беларуси режимом".

**Наталья КУЛАГИНА**



Фота IREX/ProMedia

# ПРОШЛА КАМПАНИЯ "БЕЛАРУСЬ — В ЕВРОПУ!"

ПОЛИТИКА

**Кампания "Беларусь — в Европу!", организованная незарегистрированной молодежной организацией "Малады фронт", прошла уже в 100 городах Беларуси. Она стартовала в Минске 14 февраля, в День Святого Валентина.**

В ходе кампании молодые люди раздавали материалы об объединенной Европе, проводили различные шоу и викторины в учебных заведениях, а также соцопрос. Например, в Мостах (Гродненская область) в некоторых школах были проведены викторины под лозунгом "Мы хотим жить в Европе!". Как отмечают в "Маладым фронце", в ходе продвижения кампании на запад страны значительно изменился характер ответов на вопросы анкеты: уменьшилось количество сторонников объединения с Россией, возросло количество тех, кто видит Беларусь среди европейских стран, сократилось количество сторонников президента Лукашенко. Согласно опросу, 82 процента молодежи выступают за интеграцию Беларуси с Европой и только 18 процентов — с Россией. "Малады фронт" поддерживают 41 процент опрошенных, БПСМ — 27 процентов. За бело-красно-белый флаг и герб "Пагоня" в качестве национальных символов выступают 53 процента опрошенных молодых людей, за нынешнюю символику — 47 процентов. На парламентских выборах 25 процентов опрошенных поддержали бы социал-демократов, 18 процентов – Либерально-демократическую партию, 12 – БНФ, 9 – Объединенную гражданскую партию и только 6 процентов – гипотетическую "партию власти".

Президентом независимой Беларуси 33 процента хотели бы видеть Семена Домаша, 16 процентов — Сергея Гайдукевича, 11 процентов — Александра Лукашенко, 7 процентов — Зенона Позняка.

В ближайшие дни мероприятия в рамках кампании "Беларусь – в Европу!" пройдут в Гродно, Бресте и некоторых других городах, а финал акции намечен на 14 мая.

**Геннадий БАРБАРИЧ**

# В ЗДРАВООХРАНЕНИИ НЕОБХОДИМО ПЕРЕРАСПРЕДЕЛЕНИЕ ФИНАНСОВ

ОБЩЕСТВО

**Завершена проверка Комитетом государственного контроля (КГК) работы системы здравоохранения. По данным КГК, среди обнаруженных нарушений наиболее распространенными являются нерациональное использование бюджетных средств и материальной базы, а также нарушение законодательства при закупке лекарств и оборудования.**

Комментируя результаты проверки по первому Национальному телеканалу вечером 10 мая, председатель КГК Анатолий Тозик заявил: "У нас сегодня в республике почти на треть, более чем на треть, количество врачей на 10 тысяч населения превышает среднеевропейские показатели.

Количество больничных коек почти в полтора раза больше на 10 тысяч населения, чем среднеевропейские показатели. А результаты деятельности отрасли сегодня не удовлетворяют ни главу государства, ни наших людей".

В Комитете госконтроля считают, что необходимо перераспределение денежных потоков внутри отрасли: например, сегодня порядка 70 процентов средств направляется на стационарное лечение, в то время как 80 процентов больных обращаются за помощью в поликлиники. По словам А.Тозика, упорядочение "койкового фонда", лечебного питания, порядка закупок лекарств и медицинского оборудования позволит освободить на неотложные нужды до 200 млрд. рублей.



Фота IREX/ProMedia

По итогам проверки 103 работника здравоохранения привлечены к административной ответственности и 206 — к дисциплинарной, 7 человек освобождены от занимаемых должностей, в правоохранительные органы направлено 9 материалов.

**БелаПАН**

ЭКОНОМИКА

## СОВЕТ ЕВРОПЫ МОЖЕТ ВВЕСТИ САНКЦИИ

**Заседание Политического комитета Совета Европы, на котором выступила люксембургский вице-премьер и министр иностранных дел Лидия Полфер, закончилось недавно в Люксембурге.**

Белорусская проблема будет одним из приоритетных вопросов в течение шестимесячного председательства Великого герцогства Люксембурга в Комитете министров Совета Европы. В люксембургском заседании принял участие специальный докладчик ПАСЕ по Беларуси Вольфганг Берендт. Заседание политкомитета было закрытым для прессы, и тексты выступлений на нем не будут обнародованы, однако "Радыё Свабода" удалось узнать, что на этом заседании обсуждалась возможность введения санкций против Беларуси, которая на протяжении шести лет не может развязать конфликт с европейскими организациями, начавшийся с референдума 1996 года.

**ХАРТИЯ-97**

ОБЩЕСТВО

## УВЕЛИЧИВАЕТСЯ КОЛИЧЕСТВО ВИЧ-ИНФИЦИРОВАННЫХ

**За январь-апрель в Беларуси зарегистрировано 434 ВИЧ-инфицированных.**

Эти данные обнародовал республиканский центр профилактики СПИД (РЦП СПИД). При этом за весь 2001 год в Беларуси было выявлено 578 случаев заражения ВИЧ-инфекцией.

**ХАРТИЯ-97**

## УЧИТЕЛЕЙ СОКРАТЯТ НА 20%

**Министерство образования объявило о намерении существенно сократить количество учительских кадров.**

При этом ведомство ссылается на сложную демографическую ситуацию в стране, на излишек выпускников педагогических учебных заведений и на то, что с начала учебного года ученики старших классов перейдут на пятидневную учебную неделю. К тому же ценой освобожденных мест правительство намерено повысить зарплату тем, кто сохранит за собой рабочее место.

**ХАРТИЯ-97**

КУЛЬТУРА

## ПЕРВАЯ БЕЛОРУССКАЯ НЕЛИНЕЙНАЯ КНИГА ГРАНЕСЛОВИЙ

**В Минске в Галерее Европейского гуманитарного университета (ЕГУ) прошла презентация первой белорусской нелинейной книги гранесловий Андрея Бурсова "ДЗІВІН".**

Поэтический сборник вышел в серии "Другі фронт мастацтва" издательского дома "Логинов" тиражом 500 экземпляров.

В своем постмодернистском проекте, построенном на белорусских историзмах, диалектизмах, слэнговых словах, автор в некотором смысле продолжает традицию русских и белорусских футуристов начала XX века. Внутри книги существуют горизонтальные связи между отдельными стихотворениями. По словам автора, для того, чтобы ее прочесть, нужно отгадать своеобразный кроссворд, подсказки для которого разбросаны в самом тексте.

**БелаПАН**

ФИНЛЯНДИЯ

## РОЖАЙТЕ, МАМЫ, ДОЧЕРЕЙ – ЖИВИТЕ ДОЛЬШЕ!

**Продолжительность жизни женщин, имеющих сыновей, может оказаться меньше, чем у матерей, родивших и воспитывающих дочерей.**

Ученые сделали такой вывод по результатам демографического исследования народа, проживавшего в Финляндии несколько столетий тому назад. Однако аналогичная тенденция может прослеживаться и сегодня в развивающихся странах, отмечают специалисты.

Лапландская народность, ставшая объектом изучения, существовала за счет оленеводства, рыболовства и охоты, не имея доступа к развитой системе здравоохранения.

Исследователи выяснили, что рождение каждого сына сокращало продолжительность жизни его матери в среднем на 34 недели. Каждая дочь, напротив, удлиняла жизнь своей родительницы примерно на 23 недели.

Дольше всего жили те представительницы лапландского народа, которые имели много взрослых дочерей. Однако в целом от численности семьи продолжительность жизни матери не зависела.

Ученые полагают, что сыновья отрицательно сказываются на здоровье матери потому, что быстрее развиваются, весят больше при рождении и требуют большего внимания в "нежном возрасте".

На продолжительности жизни мужчины не сказывается количество и пол детей, считают авторы исследования, так как мужской организм напрямую не страдает в процессе размножения.

По словам руководителя группы исследователей Самули Хелле из университета в Турку, однозначного объяснения полученным результатам пока найти не удалось.

"Возможно, девочки оказывали матери больше помощи в сборе пищи и уходе за детьми", — предполагает Хелле.

БРАЗИЛИЯ

## РАЗДУМАЛ ЖЕНИТЬСЯ – В ТЮРЬМУ!

**Горе-бразильцу, раздумавшему жениться за две недели до свадьбы, придется заплатить своей невесте 100 тысяч долларов.**


Фота IREX/ProMedia

Расстроенная предательством жениха несостоявшаяся супруга немало потратилась, готовясь к свадьбе. Это и ставшие ненужными приглашения на свадьбу и ремонт в новом доме, где пара собиралась жить, свадебное платье и свадебный банкет.

Суд, подсчитав материальные убытки, приплюсовал к сумме компенсации возмещение морального ущерба. Жених-предатель говорит теперь, что у него нет денег. Если он откажется платить, то может попасть в тюрьму.

ШВЕЦИЯ

## ВОЗ ПРОВЕРИТ УТВЕРЖДЕНИЯ О СВЯЗИ ЧИПСОВ И РАКА

**Информация о вреде картофельных чипсов, которая недавно была опубликована шведскими учеными, будет тщательно проверена экспертами Всемирной организации здравоохранения (ВОЗ).**

Они должны установить, действительно ли вещество акриламид, которое, по некоторым данным, может быть канцерогеном, увеличивает риск формирования раковых опухолей у человека. Напомним, что в конце апреля с таким сенсационным заявлением выступили представители шведского Национального управления по продуктам питания. Ученые обнаружили в продуктах, которые закупались в магазинах и ресторанах, высокое содержание акриламида, который в 1994 году был отнесен экспертами ВОЗ к веществам, "вероятно канцерогенным для человека".

Как предположили ученые, акриламид образуется в богатых углеводами продуктах при термической обработке. В группу опасных, таким образом, попали не только чипсы, но и картофель фри, хлеб и многие другие продукты.

ЧЕХИЯ

## РОДИЛАСЬ ВО ВРЕМЯ ГРОЗЫ

**Около года чешские власти спорили с родителями, которые хотели дать своей дочке имя Полночная Гроза. Девочка родилась во время грозы, поэтому ее мама и папа решили назвать ее столь необычным именем.**

Однако в чешском ЗАГСе отказались выдать ребенку свидетельство о рождении и зарегистрировать девочку под столь непривычным в Чехии именем.

"Имя необычное, но в жизни людей существует огромное множество необычных явлений. Современные люди уже успели привыкнуть к тому, что существует биоэнергия. Было бы неплохо привыкнуть и к необычным именам", — считает Бланка Фуксова.

Благодаря вниманию средств массовой информации, административные вопросы, связанные с получением свидетельства о рождении, стали решаться. Однако Бланке пришлось выбрать для девочки более привычное для чиновников чешское имя. Полночную Грозу будут звать Элишка.

ПРОБЛЕМА

# МОБИЛЬНЫЕ ТЕЛЕФОНЫ ЗАХЛАМИЛИ ПЛАНЕТУ

**Каждому третьему мобильному телефону в мире уготована судьба в течение многих месяцев лежать на складе, а затем по дешевке быть проданным на вторичном рынке. Происходит это потому, что производители сотовых трубок никак не научатся делать правильные прогнозы спроса на свою продукцию.**



Фота IREX/ProMedia

Из-за постоянных ошибок в оценках спроса на вторичном рынке мобильных телефонов ежегодно продается порядка 10 млн. трубок. Новые "мобилы" оказываются или слишком дорогими, или слишком простыми и тяжеловесными, или имеют непопулярный дизайн и неправильный цвет.

Худшим в этом смысле оказался прошлый год, когда производители не смогли продать по официально установленной цене около 30% своей продукции.

Дисбаланс в ассортименте сотовых телефонов из ошибочных прогнозов спроса наблюдается во всем мире. На складах по всему миру скопилось 80 млн. сотовых трубок, суммарная стоимость которых оценивается в $8 млрд.

Такие цифры приводятся в исследовании независимой исследовательской группы Mloop. Только на инвентаризации и переоценке трубок мировые производители теряют порядка $80 млн. в неделю.

Две трети из 80 млн. телефонов, залежавшихся на складах в 2001 году, были сильно уценены, преимущественно операторами мобильной связи, которые предлагали бесплатно или по очень низкой цене приобрести телефон при условии заключения контракта на услуги оператора. Остальная часть была куплена торговыми компаниями, которые пытались найти покупателей на мировом вторичном рынке.

Дефицит востребованных моделей и перенасыщение рынка непопулярными моделями дорого обходится операторам. Обесценивание среднестатистической сотовой трубки составляет 1% в неделю. Если модель стоимостью $200 задерживается на складе в течение трех месяцев, она обесценивается на $24. Телефоны, которые не были проданы в течение трех месяцев, маркируются как избыточные, и операторы пробуют избавиться от них путем резкой уценки. По данным экологической ассоциации Inform, средняя продолжительность жизни мобильного телефона – полтора года, после чего покупается новая, более совершенная модель.

Экологи подсчитали, что только в США в ближайшие три года на свалках окажется более 130 млн. телефонов, в каждом из которых содержатся ощутимые количества сурьмы, свинца, мышьяка и других вредных материалов.

РОССИЯ

# ДЕД МОРОЗ И САНТА КЛАУС БУДУТ ЖИТЬ В ПИТЕРЕ

**К трехсотлетнему юбилею Санкт-Петербурга в городе появится резиденция Деда Мороза и Санта-Клауса.**

Об этом сообщил губернатор Владимир Яковлев на переговорах с губернатором Лапландии (Финляндия) Ханнеле Покка. Резиденция Деда Мороза будет размещена на территории строящейся "Русской деревни" вблизи Государственного комплекса "Дворец Конгрессов" (Константиновский дворец).

В настоящее время ведутся переговоры об открытии в Северной столице России резиденции Санта-Клауса. В свою очередь, госпожа Х. Покка отметила, что сотрудничество Лапландии и Санкт-Петербурга представляется ей очень интересным во всех сферах, однако особое внимание, по ее мнению, следует уделить именно сотрудничеству Деда Мороза и Санта-Клауса, поскольку "в этом есть что-то мистическое". По словам губернатора В.Яковлева, создание проекта, объединяющего Вологду (там развивается проект "Великий Устюг – Родина Деда Мороза") и Лапландию, где живет Санта-Клаус, позволит привлечь туристов и в Санкт-Петербург, расположенный между ними.


Фота IREX/ProMedia

Страницу по материалам сайтов top.rbc.ru ,utro.ru, lenta.ru, mignews.com.ua подготовила Ольга ШИНКЕВИЧ


Фота Віталя ГІЛЯ
Слонім, 2002

# СЛОНІМСКАЙ

Чырвонашчокіх, як рыжыкі,
Сыноў, дачок хросных:
Пазлацаных хапіла
крыжыкаў,
Сцяжын і палян росных!
Пяцьдзесят восем хроснікаў,
Кумак — не менш:
"Кума мая, кумачка,
Дзе жывеш?.."
Хапіла і мілым кумкам
Акунькоў і трункаў,
Хапіла бабінае кашы
І нашым, і вашым!..

І гэта ж Слонімская зямля,
Каб нарадзіўся я,
Людзей са свету збірала.
Бацьку — з Іркуцка,
маці — з Арала.
Маці — прыгажэй
Афрадзіты з пены,
Аму-Дар'і ўспененай:
У Ташкент паехала Зубеняй,
Прыехала — Зубенінай.
Да хрэсту яна
Адных рускіх трымала:
Белагвардзейцаў
У Слоніме было нямала.
Ды, зрэшты, і мяне трымалі
З мясцовага інтэрнацыянала,
Са слонімскае талакі
Ў царкве
па праваслаўнаму рытуалу
Суседзі бацькоў
на вуліцы Татарскай —
Каталікі:
Хроснай была жонка
сяржанта,
Гаваркая, зіготкая, як
брыльянт,
А хросны — прыгожы надта
Дэфензівы паліцыянт.
Гены ж мае вы, гены,
Разявака — ваенком:
То ж і я мог стаць ваенным
І нават сілавіком!..

А я — а я, грэшны,
Хрэснікаў меў паўтары:
Камсамольскі — першы,
Другі... Ат! Не гавары...
І каб не сястры маёй імем
Толік дачку хрысціў
(Каханне было між імі,
Ды — Бог не судзіў);
І каб у паўшэхнай школе
Бацюшка Міхаіл
Закону Божага з Толем
Мяне не вучыў;
І каб, як звон небывалы,
Погалас не гучаў,
Што поп наш з
"Інтэрнацыянала"
Вяселле дачкі пачаў,
Ці ж — малады вучоны —
У пекла я б вельмі ляцеў?..
(Зрэшты, сам хрышчоны,
Сам бачыць хрэст хацеў.)
Стаяў — вачмі не мігаў
Пад пальцамі трыма,
Якія ў прыходскую кнігу
Не маё запісалі імя...
А што з другім разам?..
Праўды — не мінаць:
Хапіла маны і фарсу, —
Сорамна ўспамінаць!..
З мордай сабачай брама,
За плотам каменным —
двор, —
Прайшла ў яго хросная мама,
А за мяне — шафёр.
Аб тым не знала, не сніла
Святейшая з людзей,
Што мяне прасіла
Надзею хрысціць з надзей.
І я не знаў таксама,
Свету, сабе няміл,
А хто ж за тою брамай:
Наўрад ці айцец Міхаіл?
А што, як пойдуць чуткі?..
Парткам узяў след?..
Трымцеў каля сэрца пудкі
Партбілет.

Хто ж нас ад цябе адбірае,
Слонімская зямля, —
Не Бог наш нас карае,
Які нам здавён не здаля?..

З прыгону мы, хлоп і халопы,
Паклоны цару бі:
Пасярод Еўропы
Азію любі!..

З навук мы крывавай тройкі,
Цэка, Чэка:
Любі і не пікні, не войкні, —
Сталёвая у бацькі рука!..
Удалеч светлыя кладкі
Любімы кладзе для нас:
Пляскай радасна ў ладкі,
Родны слаў калгас.

Навошта нам гувернанты,
Энгліш, франсэ, дойч, —
Слаўце, музыканты:
"Ары!",
"Сталь вары!..", "Дой!"

А вось вам і палучка
(Абдымай!.. Цалуй!..).
Правіць баль самавучка,
Поруч з ім — халуй.
Дух халуя — халуеў
(На тое ён — халуй!..).
Халуй камусьці цалуе,
А ты — яму цалуй!
Ды каб жа толькі ў ручку,
У шчочку толькі каб!..
Канцлагерную бручку
Не забывай, раб,
На Рагнеду няпоўны —
Нож не нязломны,
Мякоты няпомны каханай,
Што Слуцк не здала хану,
Няпомны Цёткі роду
І хрэст яе на свабоду!..

О, сама б ты свой лёс выбірала,
Беларусь, ты б не вымірала;
Беларусь, не бядуй, зазлуй,
Каб табой не круціў халуй;
Божа, вырві нас з-пад халуя,
Каб хваліў шчыра Вас і я,
Каб я верыў:
Нябёсы не хібілі —
Не жадаюць нашай пагібелі!..

А ты ж, вёсанька,
ты — без рук;
Чым сечку замешваць,
секчы сук,
Чым швайку
ткнуць пад лапатку
Паршуку,
Чым першую чарку
Пад першую шкварку
Глушнуць першаку?
Памажы, Божа,
Без рук сяло божа,
Што яно можа:
Косці скласці на раздарожжы,
На выжарынах, на выгарах
Над бяспамятлівай Шчарай —
Ля Ісы, Лахазвы,
Валобрынкі, Грыўды, —
Шчара, іх маці,
Поўная крыўды:
"Чаму ж вы, мае ручаінкі,
Плыткі:
Па лыткі?..
Чаму недаросткі, і?..
Чаму недаросткі, —
Плыткі па косткі?..
Чаму не Валобрынка,
А роў
Ля Чамяроў?!.
Ні лясоў, ні ляскоў
Паміж Ламашоў і Лыскоў, —
Бярозаўка — не Дарданелы —
Спрамілі: спруцянела!

Пошта, пошта,
Дробнаю хваляй
Ляці ў Косаў:
"Па-над Грыўдай навошта
Бульдозер гойсаў?!."

— Ой, ці так гамоніма.
Ці тыя лескі:
Як жа Косаў — Слонімаў,
Калі ён — Палескі?

— Тыя, мой зямляча,
Географе лядачы:
Бо дзе Слонім плача,
Там і Косаў плача;

І Ружаная, і Дзярэчын
Плачуць, як на вечы
Ў пазаўчарашнім свеце
Па Слонімскім павеце.

Беспамятны, сціхні:
Зямлі Слонімскай плач —
Не толькі іхны, усіхны,
Усебеларускі плач.

Чарнобыля залысіны —
Па ўсёй Беларусі, —
Апакаліпсіс
Дождж кіслотны цярусіць.

Апакаліпсіс?.. Апакаліпсіс!
Спецыяльна для беларуса:
Без патопу, без землятрусу.
Не сяло з сялом,
Не брыгада з брыгадай, —
Збегаюцца два чалавекі-калекі
І рады!
І дзейсніца прароцтва —
Сёл сіроцтва,
Зямлі сіроцтва,
Лямант у хаце,
У ніцасць — гаць, —
Аўдавелая зямля-маці,
Ці ж табе Антэя дачакацца!..

Нікому ніколі
не дадзена знаць —
Між кім нарадзіцца,
смерць спазнаць;
Нікому ніколі не дадзена знаць:
Зоркай радзіцца,
знічкай спадаць;
Нікому ніколі не дадзена знаць:
Сасною ці пальмай
бяду захіляць!..

А думаў я: мой плач —
Плач адно па зямлі...
Прабач, дарагая, прабач,
Калі не даабняў калі!..

Трымчу, як кат, як стукач,
Як горшае падла Зямлі...
Прабач, дарагая, прабач,
Калі пакрыўдзіў калі!..

Я горшым, напэўна, не быў
На беларускай зямлі:
Адную цябе любіў
Вышэй над усе "калі";

Каханая, прабач, —
Гэта, аднак жа, плач,
Гарачай слязой літы
Не для каменнай пліты...

Ды я ўжо не плачу, не плачу:
Слёзы мае — сухімі,
У іх —тваё імя,
У іх — маё імя.

Самымі дарагімі
Плачу я слязьмі, —
Каханае імя, маё імя,
Зямля, злучна прымі;

Пра гэта не думаў, не сніў я
На ўскраіне жытніх ніў:
Каліва Чарнобыльскага жніўя
Прымі, каб яго я сніў...

І наракаць,
наракаць мне на Бога:
Перайначыць не магу нічога!..
Што плач мой?!. Ці ж плачам
Што перайначым?!.
Ды — паплачу, —
лягчэй стане, можа?..
Не! Не стане!.. Ведаю, Божа.
Як і пра тое, што плач міне,
Што мой плач, трэн, лямант,
Яны і па мне:
Няма надзеі, няма аддухі, —
Скрухі;
Няма прабуджэння,
Неміласэрныя сны, —
Слонімская зямля
Гарыць без вайны:
Цераз крынічку, цераз ручай
Адчай!..
Цераз папар,
Які ніхто не арэ,
Мрэ,
Смерць — з касой,
Я — са слязой
Свой лёс нясу...
Вышчарблю, можа, касу!..

**Студзень — люты 2002г.**

ПЕРАМОГА

## "САЛДАТЫ ПОМНЯЦЬ 41-ГА ТРЫВОГУ І Ў 45-ЫМ РАДАСЦІ ПАРАД..."

**9 траўня бібліятэкары Паўлаўскага сельсавета прымалі ў Талькаўшчынскай бібліятэцы гасцей — ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны.**

Час няўмольны. З кожным годам гэтых мужных людзей становіцца ўсё менш. І тым больш каштоўная кожная сустрэча з імі.

А да гэтай сустрэчы бібліятэкары Л.І.Ціханчук, С.М.Снітко, І.Г.Ліхачова і Л.А.Біліда падрыхтавалі цікавы сцэнарый на аснове вершаў слонімскага паэта Сяргея Чыгрына. За святочным сталом гучалі вершы, песні, успаміны.

Многа цяжкіх выпрабаванняў выпала ў гады вайны на долю такіх жанчын, як Дар'я Іванаўна Шундрык. Шмат жанчын не дачакаліся з фронту сваіх мужоў. І калі Ірына Ліхачова чытала верш Сяргея Чыгрына "Удава", на вачах прысутных з'явіліся слёзы.

Цікава гучалі ўспаміны Мікалая Адамавіча Караля, які прайшоў усю вайну і сустрэў Дзень Перамогі ў Венгрыі. Успаміналі свае франтавыя дарогі Рыгор Яфімавіч Дзеетка і Аляксандр Ігнатавіч Іскрык. Як прызналіся ветэраны, ім яшчэ і цяпер сняцца баі і загінуўшыя сябры.

За Перамогу, за сяброў-аднапалчан ветэраны налілі франтавыя сто грамаў і, нягледзячы на гады, прыгожа праспявалі салдацкую песню. Цёпла павіншавала іх са святам намеснік старшыні калгаса "Кастрычнік" Т.Р.Іванашка. А арганізатары сустрэчы ўдзячныя старшыні гэтай гаспадаркі К.Б. Харужаму за матэрыяльную падтрымку ў правядзенні мерапрыемства. Як сказала Святлана Снітко, старшыня калгаса ніводнага разу не адмовіў работнікам культуры ў іх просьбах.

**Юрка КАРПАЧ**

АРМИЯ-УЧЕНИЯ

## УЧЕНИЯ "БЕРЕЗИНА-2002"

**В комплексных оперативно-тактических учениях "Березина-2002" примут участие около 8 тысяч военнослужащих белорусской армии.**

Будут задействованы более 220 единиц основных образцов вооружений и боевой техники, в том числе около 20 самолетов и вертолетов, а также до тысячи автомобилей. Об этом журналистам сообщил заместитель начальника Генерального штаба Вооруженных сил полковник Петр Тихоновский.

Учения пройдут на Борисовском и Дретуньском полигонах 27 мая — 2 июня. Тема учений, — подготовка и применение органов управления и войск Северо-западного оперативного командования совместно с войсками и воинскими формированиями Государственного комитета пограничных войск, Министерства внутренних дел, КГБ и МЧС в вооруженном конфликте.

Основная цель учений — практически отработать вопросы перевода войск с мирного на военное положение, взаимодействия Вооруженных сил и других воинских формирований страны.

Руководить учением "Березина-2002" будет министр обороны генерал-полковник Леонид Мальцев. Планируется, что за действиями войск будет наблюдать президент Александр Лукашенко.

Полковник Петр Тихоновский заверил, что учения будут носить открытый характер. На них приглашаются военные наблюдатели всех заинтересованных государств.

**Вячеслав БУДКЕВИЧ**

# Віктар КНЯЗЮК: "МНЕ І СЁННЯ НЕ СОРАМНА ПЕРАД СВАІМІ БЫЛЫМІ САСЛУЖЫЎЦАМІ І ПАДНАЧАЛЕНЫМІ"

НАШЫ ЗЕМЛЯКІ

**Віктар Князюк нарадзіўся ў вёсцы Падмошша Слонімскага раёна ў 1950 годзе дзевятым па ліку ў шматдзетнай сялянскай сям'і. Па адукацыі — кадравы вайсковец. Скончыў Тамбоўскае вышэйшае ваеннае артылерыйскае вучылішча і акадэмію ў Пензе. Служыў у розных кутках былога СССР. Давялося Віктару Паўлавічу паслужыць і ў беларускім войску.**



Фота Віталя ГІЛЯ

*Віктар Князюк у форме расійскай інспекцыі тэхнагляду*

У 1994 годзе падпалкоўнік Князюк камандаваў 46 артылерыйскім арсеналам у Броннай гары на Беларусі.

"Калі я камандаваў арсеналам, — расказвае Віктар Паўлавіч, — гэта быў час, калі па рэспубліках былога СССР "дзялілі" савецкую армію. З чаго, уласна, і фарміравалася нацыянальнае войска. Так артылерыйскі арсенал быў выведзены з падпарадкавання Маскве на карысць Мінска. У траўні 94-га года я атрымаў загад з Міністэрства абароны Беларусі выдзеліць два аўтамабілі і адкамандзіраваць іх у Камянец (дзе калісьці быў падземны камандны пункт краін Варшаўскай дамовы) пад загрузку абсталяваннем. Я атрымаў распараджэнне прыбыць у Камянец з машынамі асабіста. Што і было зроблена. Пасля загрузкі аўтамабілі былі адпраўлены на Мінск. Праз некалькі дзён я пайшоў у адпачынак. А калі праз месяц вярнуўся на службу, у часць прыехала высокая камісія з праверкай: прадстаўнікі КДБ, дэпутаты Вярхоўнага савета 12 склікання, у складзе якіх прысутнічаў сённяшні генпракурор Беларусі Віктар Шэйман і іншыя. Пытанне ў камісіі было адно: куды падзелася абсталяванне, якое вывезлі з Камянца? Я ім назваў прозвішча палкоўніка з Міністэрства абароны, які прыняў груз і падпісаў абавязковыя пры гэтым дакументы. А далей — разбірайцеся самі. Аднак такі мой адказ іх не задаволіў. А хутка на арсенал прыехаў намеснік міністра абароны па ўзбраенню і сказаў, што я павінен напісаць рапарт аб звальненні. Маўляў, "аформім па стану здароўя з пенсіяй і ўсім астатнім, а калі не напішаш рапарт, то ўсё роўна звольнім, толькі ўжо без пенсіі і кватэры". Мне тады было 43 гады, некалькі месяцаў заставалася да атрымання звання палкоўніка, а на здароўе я і цяпер не скарджуся. Зразумела, гэта мяне тады моцна зачапіла, узрушыла. За многія гады ў мяне не было сур'ёзных праблемаў па службе. Мне і сёння не сорамна глядзець у вочы сваім былым саслужыўцам і падначаленым. Але тады я быў вымушаны прыняць навязаныя мне ўмовы звальнення. Пазней, ужо працуючы ў Маскве, паспрабаваў даведацца пра акалічнасці гэтай справы з грузам абсталявання з Камянца і маім звальненнем з войска. Але аказалася, што людзі, якія мелі дачыненне да гэтай справы, альбо даўно не жывуць у Беларусі, альбо ўвогуле не жывуць...

Калі я звольніўся, маё месца заняў сваяк тагачаснага намесніка міністра абароны Станкевіча...

Атрымаўшы пенсію і двухпакаёвую кватэру на Энцы, я пачаў шукаць працу. Працаваў у сельгастэхніцы, затым перавёўся на аўтарамонтны завод на пасаду начальніка забеспячэння. Але ў хуткім часе выйшаў Указ прэзідэнта, паводле якога патрэбна было выбіраць: альбо пенсія, альбо праца. Я выбраў пенсію. Яна на той час была большай, чым зарплата. Але па гэтым Указе дазвалялася працаваць у школах і медустановах. Так што папрацаваў я яшчэ і ў дзесятай школе.

У 1996 годзе пачалося будаўніцтва газаправода "Ямал — Еўропа". Мае маскоўскія сябры мне параілі і дапамаглі ўладкавацца на працу ў расійскі газпром. Павучыўся спачатку ў Вышэйшым тэхнічным вучылішчы імя Баўмана ў Маскве, здаў экзамены і пачаў працаваць. Спачатку інспектарам, потым начальнікам групы тэхнагляду. Цяпер працую начальнікам участка незалежнага тэхнагляду Расіі. Участак мой знаходзіцца на Украіне.

Так я знайшоў сваю другую прафесію ў жыцці, але застаўся грамадзянінам Беларусі. Прапісаны і жыву ў Слоніме. Дакладней, прыязджаю дамоў пры першай магчымасці.

Пачынаючы дзесьці з 1998 года, у Расіі і на Украіне назіраецца эканамічны пад'ём. У галіне, дзе я працую, расшыраецца вытворчасць. Украіна арыентуецца на Захад, у прыватнасці, на амерыканскія тэхналогіі. А апошнія парламенцкія выбары паказалі, што ў іх працуюць дэмакратычныя інстытуты... Крыўдна, што, у параўнанні з імі, у нас нічога не змяняецца да лепшага", — падагуліў свой расказ Віктар Князюк.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

# КОЛЛЕКЦИЯ ВЫРОСЛА В МУЗЕЙ



Фота Віталя ГІЛЯ

*Михаил Харченко проводит экскурсию в своём музее*



Фота Віталя ГІЛЯ

*Первые посетители — ученики СШ №9*

СОБЫТИЕ

**Накануне Дня Победы в 11-й гвардейской механизированной бригаде открылась экспозиция музея военной формы одежды. Для Слонима это событие неординарное.**

Сегодня редкие люди задумываются о чем-нибудь, кроме проблемы выживания в дне сегодняшнем. Коллекционирование становится каким-то чудачеством, а увлеченность — подозрительной. Да только мир без этих людей был бы серым и неинтересным.

Михаил Харченко, старшина контрактной службы оркестра 11 механизированной бригады, начал собирать военную форму, знаки различия уже давно. Постепенно коллекция росла: кто-то что-то дарил, что-то приходилось покупать за немалые деньги, чем-то обмениваться с другими коллекционерами. И вот, частная коллекция Михаила Харченко выросла в настоящий музей. Поэтому и открытие экспозиции организаторы постарались обставить как можно более торжественно, хотя и скромно.

Среди приглашенных на открытие были директор Слонимского краеведческого музея Нина Шпыркова, коллекционер Михаил Рылко, заведующая отделом культуры райисполкома Светлана Романюк, директор РДК Николай Адамчик. Первыми посетителями новой экспозиции стали дети — учащиеся подшефной СШ №9.

Для мальчишек в этом музее интересно было буквально все, а Михаил Харченко постарался рассказать об экспонатах коротко и нескучно, ведь каждый из них имеет свою историю. За мундирами стоят люди, которые их когда-то с гордостью носили.

Помощь в организации музея оказало своему подчиненному командование бригады. Командир 11 ОМБР полковник Николай Скобелев так выразил свое отношение к коллекции Михаила Харченко: "Музей открыт. Теперь ему — развиваться. У этого музея все впереди. И самое главное, что он будет интересен всем. А раз есть интерес у посетителей, значит будут и экспонаты, будет и поддержка, будет и развитие".

**Валерий КОВАЛЕНКО**

ФУТБОЛ. ПЕРШАЯ ЛІГА

# ЗМАГАЛІСЯ І ПЕРАМАГЛІ

**"Камунальнік" (Слонім) — "Дынама-Юні" (Мінск), 2 - 1**

**Слонім. 12 траўня.**
Стадыён "Дынама". 1 500 гледачоў.
**Суддзя:** Юрый Майстраў (Мінск).
**"Камунальнік":** Курыловіч, Вольскі (К), Майсейчык, Горбач, Асіпенка (Боцік, 46), Верэшня (Місюк, 66), Срыбненка, Астапчык, Яўсеенка, Аначэнка (Зюлеў, 90), Фіранчук.
**Галы:** Горбач, 4; Яўсеенка, 89 (Камунальнік); Масло, 87 (Дынама-Юні).

Пасля страшэннага ўдару ў выглядзе трох буйных паражэнняў на старце чэмпіянату слонімскі "Камунальнік" не даў засумаваць сваім балельшчыкам падчас гульні, што адбылася ў мінулую нядзелю. Матч у мясцовых футбалістаў атрымаўся калі не на "выдатна", то на цвёрдую чацвёрку, калі меркаваць па выніку.

А пачалося ўсё з першага вуглавога на вароты гасцей. Пасля навесу мяча ў штрафную пляцоўку трапна на апярэджанні гуляе Максім Горбач і выводзіць слонімцаў наперад — 1:0. Пасля гэтага хвілін на дзесяць ініцыятывай завалодалі дынамаўцы, але нічога істотнага ім зрабіць не ўдалося. Гаспадары ж раз-пораз спрабавалі свае сілы ў атацы, у цэнтры якой камбінавалі Аначэнка і Яўсеенка, а з флангаў актыўна гулялі Фіранчук і Верэшня.

Менавіта Міхаіл Верэшня меў некалькі момантаў для ўзяцця варотаў гасцей, выконваючы штрафныя ўдары, а аднойчы з сярэдзіны поля спрабаваў перакінуць мяч праз дынамаўскага варатара, які далёка выйшаў з варотаў. На апошняй хвіліне першага тайма, зноў-такі пасля выканання вуглавога, з лініі варатарскай пляцоўкі вышэй перакладзіны прабіў Валерый Майсейчык.

Мінчане хаця і былі актыўнымі, але ж да сапраўднага ўдару справа не даходзіла даволі доўга. Вялікая заслуга ў гэтым нашых абаронцаў Аляксандра Вольскага ды Максіма Горбача. У сярэдзіне поля добра згулялі Мікалай Астапчык і Іван Срыбненка. І ўсё ж такі ўдачы слонімцы шукалі каля варотаў гасцей.


*Павел Яўсеенка (справа) рэабілітаваўся за няўпэўненую гульню ў другім тайме пераможным голам*

Фота Віталя ГІЛЯ

Ці не палова "Камунальніка" спрабавала павялічыць лік на сваю карысць у другой палове матчу.

Добра ўключыўся ў гульню Андрэй Місюк, які замяніў Аляксандра Асіпенку. Яго пас на 67-й хвіліне ледзве не дазволіў Аначэнку падвоіць лік на табло, ды толькі варатар мінчан апярэдзіў нападаючага гаспадароў поля і выбіў мяч за бакавую лінію. Яшчэ праз дзве хвіліны Місюк гуляе на дабіванні і трапляе ў варатара, а на 79-й хвіліне Андрэй прыгожа, у падзенні, замыкаў падачу з вуглавога, але прамахнуўся.

Затое футбалісты "Дынама-Юні" выкарысталі свой шанц зраўняць лік матчу на 87-й хвіліне. Распячатаў вароты Дзяніса Курыловіча адзінаццаты нумар гасцей Андрэй Масло пасля навесу са штрафнога з левага флангу абароны "Камунальніка" — 1:1.

Здавалася, на гэтым сапернікі і разыдуцца. Але не задавольваў такі зыход гульні гаспадароў поля, і яны пайшлі на штурм варотаў мінчан. Слонімцам спатрэбіліся толькі дзве хвіліны, каб аднавіць перавагу. Яўсеенку збіваюць на подступах да штрафной "Дынама", навес на варатарскую і ... у сутаалцы перад варотамі Павел Яўсеенка дабівае мяч у сетку — 2:1. Перамога! А павялічыць лік гульні мог яшчэ і Ігар Зюлеў. На апошняй хвіліне матчу ён выйшаў на замену, але не выкарыс-таў выдатны момант. Мяч пасля пасу Яўсеенкі знайшоў Ігара на самым цэнтры лініі варатарскай пляцоўкі гасцей, і ён прабіў міма варотаў.

"Камунальнік" атрымаў першую перамогу ў сезоне. І гэта пры тым, што судзейства матчу было больш чым дрэнным, Суддзя вёў нейкую сваю гульню на карысць мінчан. Ну, ды гэта няхай ужо будзе на яго сумленні.

Наступны матч слонімскі "Камунальнік" правядзе 19 траўня ў Гомелі супраць мясцовага "ЗЛіНу".

**Валерый КАВАЛЕНКА**

### Вынікі астатніх матчаў 4-га тура:

| | |
|---|---|
| Граніт – Лакаматыў, | 1-0 |
| Ліда – Хімік, | 2-4 |
| Днепр-ДЮСШ-1 – Тарпеда-Кадзіна, | 2-2 |
| Смаргонь – Асіповічы, | 3-0 |
| Нафтан – Бяроза, | 2-0 |
| Ведрыч-97 – ЗЛіН, | 2-0 |

## Турнірная табліца пасля 4-га тура

| | | гульні | В | Н | П | ачкі | мячы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Нафтан | 4 | 3 | 1 | 0 | 10 | 9-1 |
| 2. | Дарыда | 4 | 3 | 1 | 0 | 10 | 9-3 |
| 3. | Ведрыч-97 | 4 | 3 | 0 | 1 | 9 | 11-4 |
| 4. | Днепр-ДЮСШ-1 | 4 | 2 | 2 | 0 | 8 | 9-5 |
| 5. | Тарпеда-Кадзіна | 4 | 2 | 2 | 0 | 8 | 8-4 |
| 6. | Лакаматыў | 4 | 2 | 1 | 1 | 7 | 8-4 |
| 7. | Хімік | 4 | 2 | 0 | 2 | 6 | 9-7 |
| 8. | Смаргонь | 4 | 2 | 0 | 2 | 6 | 5-3 |
| 9. | Граніт | 4 | 2 | 0 | 2 | 6 | 5-5 |
| 10. | ЗЛіН | 4 | 1 | 1 | 2 | 4 | 3-5 |
| 11. | Асіповічы | 4 | 1 | 1 | 2 | 4 | 4-8 |
| 12. | Дынама-Юні | 4 | 1 | 0 | 3 | 3 | 4-7 |
| 13. | Бяроза | 4 | 1 | 0 | 3 | 3 | 2-7 |
| 14. | Нёман | 4 | 1 | 0 | 3 | 3 | 6-13 |
| 15. | Камунальнік | 4 | 1 | 0 | 3 | 3 | 3-15 |
| 16. | Ліда | 4 | 0 | 1 | 3 | 1 | 4-8 |

ФУТБОЛ. ПЕРШАЯ ЛІГА

### І СВАЁ ПОЛЕ НЕ ДАПАМАГЛО

**У чацвёртым туры першынства Беларусі мастоўскі "Нёман" прымаў на сваім полі "Дарыду" са Ждановічаў. У стартавым складзе мастаўчан значыліся Жукоўскі, Коцка, Патоцкі, Крупіца, Дудзін, Казмяровіч, Алег Вярбіцкі, Пятроў, Лянцэвіч, Рябоцін і Белаш.**

Гульня пачалася з атак "Нёмана". Ужо на другой хвіліне мяч трапляе ў штангу варотаў гасцей, але рыкашэціць у поле. "Дарыда" адказвае вострай атакай і са становішча паза гульнёй забівае гол. Суддзя мяч не залічвае. Каманды працягваюць абменьвацца атакамі, падчас адной з якіх Патоцкі ў сваёй штрафной згуляў рукой. Удар з пенальці Жукоўскі ўзяць не здолеў — 0:1. Толькі за пяць хвілін да заканчэння першага тайма капітан мастаўчан Лянцэвіч пасля вострага праходу раўняе лік, 1:1.

Спадзяванні балельшчыкаў, што ў гульні наступіў перадом, не спраўдзіліся, — на апошняй хвіліне тайма госці забіваюць другі гол. А на першай хвіліне другой паловы гульні яны даводзяць лік да 1:3.

Футбалісты "Нёмана" здолелі толькі адквітаць адзін гол на 57-й хвіліне, а надалей, нягледзячы на ўсе намаганні мастаўчан, лік сустрэчы не змяніўся, — 2:3.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

### ВСЕМ ЛЮБИТЕЛЯМ СТРИТБОЛА И ВОЛЕЙБОЛА

В воскресенье, 19 мая, в Слониме будут проводится соревнования по стритболу и волейболу.

К участию в соревнованиях приглашаются все желающие без ограничения возраста. Сбор участников и регистрация команд — в 10 часов утра у районного дома культуры.

ЛЕГКАЯ АТЛЕТИКА

## СЛОНИМСКИЕ КОМАНДЫ — В СЕМЕРКЕ ЛУЧШИХ

**Двадцать четыре команды городов и районов Гродненской области выставили свои команды на областную спартакиаду детско-юношеских спортивных школ. В команды были включены легкоатлеты 1985-86г.г. и 1987-88 годов рождения.**

Выставили на соревнования своих спортсменов и ДЮСШ №3 города Слонима и СДЮШОР Слонимского района. В итоге, районные легкоатлеты заняли седьмое общекомандное место, а их городские сверстники — четвертое.

В тройке же призеров оказались команды Сморгони (первое место), Гродно-І (второе место) и Волковыска (третий результат).

**Валерий КОВАЛЕНКО**

## ЛИЧНЫЙ РЕЗУЛЬТАТ ВЫШЕ КОМАНДНОГО

**Хотя команда слонимской районной СДЮШОР на областной спартакиаде оказалась лишь седьмой, но в личном зачете многие ребята этой спортшколы выступили выше всяких похвал.**

Так, Ирина Искрик (Поречье) выиграла в двух дисциплинах — прыжках в длину и высоту. Андрей Коротько (Селявичи) победил в забеге на 1 500 метров и пришел к финишу вторым на 800-метровке. Марина Сучко (Шиловичи) уверенно лидировала в спортивной ходьбе на две и три тысячи метров. Денис Кожемяко (Мелькановичи) показал второй результат в метании молота, а Татьяна Тимофейчик (Жировичи) в этой же дисциплине среди девушек поднялась на пьедестал почета в качестве победителя.

Стоит отметить и призовые места Кристины Гурской (Шиловичи) в беге на 400 (второе) и 800 (третье) метров, Александра Боровского (Новодевятковичи) в беге на два километра с препятствиями (второе место), Ирины Осиповой (Деревная) в беге на 3 000 метров (второе место) и Кирилла Покало (Новодевятковичи) в толкании ядра (третий результат).

Высокие личные результаты позволили нескольким слонимским легкоатлетам стать кандидатами в сборную Гродненской области.

**Валерий КОВАЛЕНКО**

ХУДОЖЕСТВЕННАЯ ГИМНАСТИКА

## ПЕРВЫЙ УСПЕХ ЮНОГО ДАРОВАНИЯ

**Накануне Дня Победы в Гродно прошел чемпионат области по художественной гимнастике.**

Выставил свою команду на соревнования и Слоним. В борьбу за чемпионское звание вступили Марина Дембская (гимназия №1), Анна Сочик (СШ №5), Александра Шарок (гимназия №1), Наталья Машлякевич (СШ №10) и Екатерина Игнатик (СШ №10).

К сожалению, в тройку призеров чемпионата сумела пробиться лишь одна воспитанница тренера Елены Макарской — Катя Игнатик. Она заняла третье место в общем зачете в возрастной группе 1993-94 г. р.

**Валерий КОВАЛЕНКО**

• • • КОНКУРС • • • КОНКУРС • • • КОНКУРС • • • КОНКУРС • • • КОНКУРС • • • КОНКУРС • • •

## ШАШКІ

**Заданне №8**



**Белыя:** a5, b4, c1, d2, e1, g3, g5, h2 (8).

**Чорныя:** a7, c3, d6, e5, e7, f8, g7, h8 (8).

Белыя пачынаюць і выйграюць.

**Рашэнне задання №5**

| | |
|---|---|
| 1. e3 – d4 | c3 : e5 |
| 2. g1 – e3 | b8 – c7 |
| (Калі 2... b8 – a7, то | |
| 3. E3 – g1 | e5 – f4 |
| 4. g1 – f2X) | |
| 3. e3 – a7! | C7 – d6 |
| (3... e5 – f4 | |
| 4. a7 – b8X) | |
| 4. a7 – b8 з выйгрышам. | |

## ШАХМАТЫ

**Заданне №9**



**Белыя:** Кр c1, В d3, С c3, С d7, К f7, К h8, пп. в2, d4, g3, h6 (10 фігур).

**Чорныя:** Кр 6, С a2, К d1, К a7, пп. b3, b5, e7, g5, g4 (9 фігур).

Белыя пачынаюць і даюць мат у чатыры хады (4 ачкі).

**Рашэнне задання №6**

Л. Куббель

**Вырашае:** 1. Г e1! – 2. К b3+
2... Кр c4. 3. К d6x.
1... С c5. 2. К a5. С-. 3. К db3x
1... К e8. 2. Г g3! І 3. c3x
1... К c5. 2. К f3 + Кр c4. 3. К d6x

• • • КОНКУРС • • • КОНКУРС • • • КОНКУРС • • • КОНКУРС • • • КОНКУРС • • • КОНКУРС • • •

*Уважаемые коллеги!*

**Примите самые сердечные поздравления в преддверии вашего профессионального праздника — Дня физической культуры и спорта!**

Желаем всем работникам физической культуры и спорта, ветеранам и активистам физкультурного движения крепкого здоровья, успехов в профессиональной деятельности, личного благополучия, материального достатка, высоких достижений и новых побед!

**Отдел по физической культуре, спорту и туризму Слонимского райисполкома**

# прогноз погоды




Информация предоставлена сайтом www.meteo.by

## на 15 - 22 мая

| Дата | 15 | | 16 | |
|---|---|---|---|---|
| Время суток | ночь | день | ночь | день |
| Температура, С | 18 | 23 | 11 | 18 |
| Скорость ветра, m/sec | 2 | 3 | 4 | 4 |
| Дата | 17 | | 18 | |
| Время суток | ночь | день | ночь | день |
| Температура, С | 10 | 23 | 15 | 27 |
| Скорость ветра, m/sec | 1 | 3 | 2 | 4 |
| Дата | 19 | | 20 | |
| Время суток | ночь | день | ночь | день |
| Температура, С | 18 | 27 | 18 | 20 |
| Скорость ветра, m/sec | 3 | 5 | 4 | 4 |
| Дата | 21 | | 22 | |
| Время суток | ночь | день | ночь | день |
| Температура, С | 11 | 15 | 10 | 14 |
| Скорость ветра, m/sec | 1 | 5 | 6 | 5 |

# анекдоты

- Что самое главное в женской красоте?
- Рот.
- А точнее: форма, цвет, размер?
- Главное, чтобы он был закрыт.

☺ ☺ ☹

- Мама, ты получишь от папы на Рождество меховое пальто?
- Боюсь, что нет.
- А ты уже пробовала падать на пол и ногами дергать?

☺ ☺ ☹

- Может ли в фильме быть хэппи-энд, если в конце главный герой погибает?
- Может. Если главный герой - теща.

☺ ☺ ☹

Вы что делаете?
- Ничего.
- Как закончите, зайдите ко мне!

☺ ☺ ☹

- Алкоголь медленно убивает человека;
- А я и не тороплюсь!

☺ ☺ ☹

Кондуктор на остановке кричит водителю с задней площадки:
- Коля! Подожди немного, там еще один человек бежит!
Через несколько секунд:
- Коля!!! Поехали быстрее, я его знаю - у него проездной!

☺ ☺ ☹

- Здравствуйте, я ваш новый жилец!
- А где старый?
- А старый уже не жилец...

☺ ☺ ☹

Жена нового русского жалуется:
- Гони шофера в три шеи, он меня уже пять раз чуть не убил.
- Ну че ты, дорогая, в натуре. Нельзя так строго с людьми, мы же не буржуи... Дадим ему еще один шанс.

☺ ☺ ☹

Разговаривают две женщины:
- Нет, что ни говорите, а не в деньгах счастье - богатые тоже бывают несчастливы!
- Согласна, но согласитесь и вы, что плакать лучше в собственном "Мерседесе", чем в трамвае!

☺ ☺ ☹

На заметку домохозяйке:
Хорошо забитый молотком шуруп держится значительно лучше, чем завернутый отверткой гвоздь.

# Беларускі красворд

ад Уладзіміра ВАШУТЫ



## Па гарызанталі

7. Пісьмовае пасведчанне, якое пацвярджае чыю-небудзь асобу. 8. Даўней: каляндар з разнастайнымі, галоўным чынам, астранамічнымі звесткамі. 10. Буйны горад у Беларусі. 11. Пісьменнік-палеміст, які нарадзіўся ў вёсцы Жыровічы. 12. Раней: возчык грузаў. 15. Беларускі артыст, выканаўца роляў у фільмах "Белыя росы", "Людзі на балоце". 18. Канцлер Вялікі Літоўскі, які з 1586 г. валодаў Слонімам. 19. Павага, слава. 20. Плошча. 21. Аўтар вершаваных паэтычных твораў. 23. Даўней: маёмасць, якая давалася бацькамі дачцэ, калі яна выходзіла замуж. 25. Той, хто прыносіць вестку. 26. Польскі паэт і перакладчык, радзіма якога Слонім. 31. Невялікая дошчачка, на якой жывапісец змешвае фарбы. 33. Назва былога кінатэатра ў Слоніме, пабудаванага на сродкі касцёла св. Андрэя. 34. Месца, на якім саджаюць нявесту. 35. Невялікі арган у выглядзе скрынкі, на якім ігралі даўней вандроўныя музыканты. 36. Даўнейшая назва буквара.

## Па вертыкалі

1. Невялікі лірычны хвалебны верш. 2. Даўней: мужчынскае духоўнае вучылішча з інтэрнатам для вучняў. 3. Аб'ява ў тэатры, кіно аб тым, што ўсе білеты прададзены. 4. Шабля, часам кінжал, а таксама толькі завостраная частка гэтай зброі. 5. Чарга ў млыне. 6. Густая каша з кукурузнай мукі. 9. Гераічныя народныя паданні. 13. Кіраўнік легендарнага беларускага ансамбля "Песняры". 14. Мова адной дзеючай асобы ў п'есе, звернутая да сябе ці да гледачоў. 16. Вядомы беларускі пісьменнік. 17. Жаночая цёплая кофта без рукавоў. 22. Другі паверх дома. 24. Маскарад з танцамі, гульнямі. 27. Металічнае колца, якім прымацоўваецца каса да касільна. 28. Горад у Гродзенскай вобласці. 29. Чалавек з цёмнымі або чорнымі валасамі. 30. Прыток Нёмана. 32. Гразкае балота, дрыгва.

# ГОРОСКОП НА НЕДЕЛЮ

от www.ignio.com

**ОВЕН**
Наступает благоприятная неделя для творческой реализации и поиска единомышленников. Ваша коммуникабельность позволит изменить ситуацию к лучшему, т.к. новые связи и знакомства положительно повлияют на ваше материальное положение. На работе начальство будет довольно вашей пунктуальностью и высоким профессиональным уровнем. Желательно не отказываться от нового делового предложения, и у вас появится шанс обрести надежных партнеров на ближайшее будущее. Начинайте накапливать жизненную энергию, эта неделя энергичных действий и стремительных решений. Среда может способствовать продолжению научных исследований.

**ТЕЛЕЦ**
Соберитесь с силами и сделайте на этой неделе как можно больше работы, даже несмотря на определенные препятствия и трудности. Перед вами могут открыться новые перспективы. Основные проблемы, которые вас беспокоили, остались в прошлом, налаживаются конструктивные отношения с коллегами по работе. Недоброжелатели, если они имеются, могут проявиться, совершив ошибку. Первая половина недели наполнена разнообразными событиями: она насыщеннее, чем вторая, поэтому максимально используйте благоприятное расположение звезд.

**БЛИЗНЕЦЫ**
Пришла пора пустить энергию в дело, но пока на ближних дистанциях. Еще не пришло время для реализации далеко идущих планов. Будьте готовы к любым сюрпризам и неожиданностям. Отношения с партнерами по работе могут измениться; с кем-то вы расстанетесь, но не огорчайтесь, на их место придут новые, которые вас не разочаруют. Вокруг вас витает множество идей, не поленитесь, стоит только сосредоточиться, и вы сможете сформуливать парочку-другую. И уж совсем недурно было бы их записать, ведь многие из них будут стоящими. Среда и четверг могут принести вам хорошее настроение и много позитивных моментов.

**РАК**
На этой неделе желательно хорошо подумать, прежде чем пускаться в рискованные предприятия. От вашей сообразительности и осторожности зависит многое в будущем, лучше все десять раз проверить. Не стоит доверять случайным знакомствам. Есть вероятность разрыва деловых отношений с некоторыми партнерами по работе из-за вопросов принципа. Постарайтесь решить все разногласия спокойно, мирным путем. Уделите себе больше времени, желательно снизить нагрузку на работе и выполнять только то, что в данный момент вам по силам.

**ЛЕВ**
На этой неделе ситуация на работе будет складываться удачно. Вы получите шанс быть увиденными и услышанными. Дела, связанные с работой, будут даваться легко, а любые проблемы отступят на задний план. Вам необходимо собраться с силами и принять важное решение, которое повлияет на вашу дальнейшую судьбу. В середине недели вы можете ощутить результаты своей прошлой работы, ими можно гордиться, не забывайте о дальнейшем движении вперед. В пятницу вас может посетить интересная идея, постарайтесь ее зафиксировать.

**ДЕВА**
На этой неделе вы способны на многие свершения, те задачи, которые для других кажутся сверхсложными, вы решите быстро и без особых усилий. У окружающих может возникнуть желание переложить свои проблемы на ваши плечи, такие попытки необходимо вовремя пресекать. Постарайтесь не посвящать почти все свое время работе, распланируйте свою неделю с учетом личной жизни. Начинается полоса везения. Вас будут поддерживать не только друзья, но и в какой-то мере оппоненты.

**ВЕСЫ**
На этой неделе важно сконцентрировать свои действия и не разбрасываться по мелочам, тогда все дела на работе пройдут успешно. Открываются новые перспективы и возможности: в работе и в творчестве. Вероятна продуктивная посредническая деятельность и вообще успешная работа с людьми. Главное - соблюдать последовательность и дипломатичность. В понедельник могут произойти отрадные события, которые улучшат ваше настроение, но во второй половине дня лучше поберечь свой кошелек. В пятницу контакты с руководством принесут пользу.

**СКОРПИОН**
Неделя может принести серьезный успех в профессиональной сфере. Придется принимать серьезные решения, выслушайте советы окружающих, но оставьте за собой последнее слово. Правда, вам необходимо объективно оценить собственные способности и возможности, а еще важно учитывать накопившуюся усталость. Во вторник вас может ожидать серьезный успех в профессиональной сфере. Проверьте в пятницу поступившую к вам информацию, так как возможны неточности и искажения.

**СТРЕЛЕЦ**
На этой неделе постарайтесь быть выдержанным и благоразумным, не позволяйте себя втянуть в авантюру. Ваши идеи и начинания будут поддержаны окружающими. Возможно, на этой неделе придет информация, подтверждающая зарубежную поездку. В среду лучше не принимать серьезных решений, нежелательно планировать деловые встречи и переговоры. Вторая половина недели может быть посвящена поездкам, деловым встречам и переговорам. Работа будет отнимать у вас много времени, а семейные дела, судя по всему, могут оказаться почти на последнем месте.

**КОЗЕРОГ**
Наступает благоприятное время для переосмысления своего поведения и достижений. Новый взгляд на вещи позволит сформулировать новые идеи. В ваших силах изменить в лучшую сторону отношения с окружающими. В понедельник лучше не вступать в споры, они не принесут ничего конструктивного. В среду благоприятны поездки и командировки, которые будут весьма успешны. В четверг ожидайте интересной информации, которая позволит вам, используя свои связи и возможности, продвинуться по карьерной лестнице. Не забывайте о близких людях.

**ВОДОЛЕЙ**
На этой неделе вы можете реализовать свои творческие порывы. Хорошая ситуация для реализации лучших черт вашего характера и ваших способностей. Держитесь крепче за единомышленников, их советы будут мудры и реалистичны. Вам необходимо сконцентрировать свое внимание на поставленных целях. Во вторник прислушайтесь к голосу интуиции, и она вас не подведет, удача не ускользнет из ваших рук. В понедельник благоприятны поездки и командировки. В среду, если есть возможность, хорошо бы устроить для себя день отдыха, а еще лучше уехать за город и наслаждаться природой.

**РЫБЫ**
На этой неделе у вас появятся все шансы для продвижения в профессиональной сфере. Полезно обратиться за помощью к влиятельным лицам. Вам необходимо проверять поступающую информацию. В понедельник может прийти хорошее известие, которое порадует вас. Сейчас не время отстраняться от действительности и уходить в мир иллюзий. Вам стоит сменить свою сентиментальность на заботливость и защищенность. Дети потребуют заботы и пристального внимания.

# Вынікі конкурсу прыпевак

**Паважаныя сябры!**

У пазамінулым нумары нашай газеты былі змешчаны лепшыя прыпеўкі, якія вы даслалі на конкурс. Калектыў рэдакцыі вырашыў усім аўтарам апублікаваных прыпевак уручыць па кілаграму цукру. У наш нялегкі час, няхай ён хоць трошкі падсалодзіць ваша жыццё. А каб яно было весялейшым, кожны "саліст" атрымае яшчэ па брашурцы "Самогон".

Пераможцам конкурсу прыпевак стала Алена Андала з вёскі Зяльвянка Зэльвенскага раёна. Яна атрымае пяць кілаграмаў цукру і брашуру. Просім пераможцу і ўсіх аўтараў прыпевак, якія былі змешчаны ў "Газеце Слонімскай" (№ 18), да першага чэрвеня прыйсці ў рэдакцыю "ГС" і атрымаць падарункі.

Наш адрас: Слонім, вул. Камсамольская, 8. Дзякуй усім за ўдзел у конкурсе.

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР Віктар ВАЛАДАШЧУК
ЗАСНАВАЛЬНІК Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Камсамольская, 8.
Тэлефоны:
рэдакцыі ....................2-14-39
....................4-79-34
аддзел рэкламы ............2-49-39
E-MAIL: gs@irex.minsk.by HTTP://gs.promedia.minsk.by Аб'ём — чатыры друкаваныя аркушы

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядамі рэдакцыі.
Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Рэдакцыя таксама не адказвае за змест рэкламы.

Падпісана да друку 13 траўня 2002г. Час падпісання 18:00.
Надрукавана ў Гродзенскім абласным унітарным прадпрыемстве "Слонімская друкарня", г.Слонім, вул. Хлюпіна, 16.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
63646 (льготная)
ЗАКАЗ № 1276



